Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 27 (4878) 8 ліпеня 2016 г.



# Магія Купалля


Фота Анатоля Клешчука.

Лета, як сонейка, іскрыцца цеплынёю. І гэтаксама, як магутнае свяціла, пераходзіць у зеніт — яго вялікасць ліпень валадарыць. Купалле зыходзіць на Беларусь. Што й казаць — момант урачысты! Вось і зноў прычакалі адно з самых адметных найстарадаўніх народных святаў, прысвечаных сонцу і росквіту зямлі. Адзначаем, як і нашы продкі, з асаблівым імпэтам.

«Купала» — «сярдзітае», «гарачае», «гняўлівае», «раз'юшанае»… Менавіта так уяўлялася сонца разам з яго цудадзейнай сілаю. На Купалле продкі не забываліся дзякаваць магутным Агню, Вадзе, Зямлі. І хоць магічныя абрады і таямнічыя рытуалы ўзніклі яшчэ ў паганскія часы, захаваліся яны нават з прыняццем хрысціянства, узбагаціліся неверагоднымі легендамі ды паданнямі.

Ці верыце вы, што ў гэтую ноч расліны і жывёлы размаўляюць, а сонца на золку гуляе? Што рэкі свецяцца дзіўным святлом, а купаюцца ў іх, у абліччы русалак, душы нябожчыкаў?..

Верце! І цуд абавязкова прыйдзе ў ваша жыццё. У наша з вамі жыццё. Да кожнага паасобку. У кожную сям'ю. І ў нашу агульную краіну — любую Сінявокую Беларусь.

Спяшайцеся адшукаць папараць-кветку: паводле павер'яў, яна зацвітае ўсяго раз на год. І ўсяго на імгненне у вас узнікае шанц — мо зазірнуць у таямніцы будучыні, мо знайсці ўсе схаваныя скарбы свету… Мо спаткаць суджэнца, мо павітацца з тым, хто пайшоў з жыцця, а жыццё без яго — быццам не жыццё.

Будзем смелымі — толькі смелы здольны знайсці сваю Папараць. Будзем шукаць. Заўжды. І — быць дабру!

Інеса ПЕТРУСЕВІЧ

Працяг на стар. 3-4 ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка напярэдадні Дня Незалежнасці ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды заслужаным людзям Беларусі. У ліку ўганараваных ордэнам Пашаны — міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Урачыстая цырымонія адбылася ў Палацы Незалежнасці.

✔ Беларускі дзяржаўны Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны падчас святкавання Дня Незалежнасці прэзентаваў праект «Мабільная экспазіцыя “Вызваленне Беларусі. Верасень 1943 г. — ліпень 1944 г.”». Праект рэалізаваны сумесна з пасольствам Кітая ў Беларусі. Галоўная мэта — зрабіць музей больш даступным для наведвальнікаў з аддаленых куткоў краіны. Пляцоўкай для стварэння мабільнай экспазіцыі стала прастора перасовачнага паўпрычэпа плошчай 30 кв. м.

✔ Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадставіў наведвальнікам знакамітае палатно Валянціна Волкава «Мінск 3 ліпеня 1944 года» ў мультымедыйнай форме, праз «кухню мастака». Перад гледачом паўсталі эцюды і эскізы з адлюстраваннем рэальных гістарычных персанажаў — сведак вызвалення горада.

✔ Арганізатары XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», які пройдзе з 14 па 18 ліпеня, прагназуюць практычна поўны выхад яго на самаакупнасць. Паводле міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, «у гэтым годзе вельмі рана пачаты продаж білетаў на мерапрыемствы свята мастацтваў, цэнтралізаванай падтрымкі мы не просім і будзем максімальна абыходзіцца за кошт сродкаў, заробленых рэкламай, за кошт спонсараў, продажу білетаў і г. д.».

✔ Усіх гасцей свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»), якое адбудзецца ў выхадныя ў аграгарадку Александрыя Шклоўскага раёна, упершыню запросяць на купальскае застолле. Паводле намесніка начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама Алены Бабровай, пляцоўка «Прадмесце прысмакаў» прадэманструе тэму славянскага братэрства, адзінства вытокаў гістарычнай і культурнай спадчыны. Прыгатаванне і дэманстрацыя страў будзе праходзіць у рэжыме рэальнага часу.

✔ Фальклорна-абрадавая імпрэза «Купальская вечарына» пройдзе 9 ліпеня ў Цэнтральным батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Тут можна будзе паслухаць старадаўнюю беларускую музыку, развучыць на майстар-класах беларускія танцы, пакаштаваць чаю ад батанічнага саду, заварана на лекавых травах. Кульмінацыяй вечара стане купальскае вогнішча.

✔ А ў гарадскім пасёлку Івянец Валожынскага раёна заўтра чакаецца абласное свята-конкурс майстроў ганчарнай справы «Гліняны звон». Як паведамляюць у аддзеле традыцыйнага мастацтва Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, у мерапрыемстве, якое адбудзецца ў восьмы раз, гатовыя ўзяць удзел больш як 90 ганчароў.



# Кніга рэкордаў форуму

## з'явіцца на 25-годдзе «Славянскага базару ў Віцебску»

Ужо на наступным тыдні 14 ліпеня адкрыецца Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», які будзе доўжыцца па 18 ліпеня. Цяперашні форум ужо дваццаць пяты, юбілейны, таму святочная атмасфера працягнецца даўжэй за пяць дзён: арганізатары вырашылі дадаць да афіцыйнай праграмы чатыры дні. Шмат падзей пачнецца напярэдадні афіцыйнага адкрыцця 12 — 13 ліпеня і пройдзе пасля закрыцця: сольныя канцэрты (Сяргея Лазарава, Крысціны Арбакайтэ, Максіма Галкіна, Аляксандра Разенбаума, Дзіяны Арбенінай), мастацкія прэзентацыі і выстаўкі, лялечныя «хэпэнінгі»...

Фестывальны горад чакае вялікі наплыў гасцей: толькі акрэдытаваных удзельнікаў налічваюць пяць з паловай тысяч. У параўнанні з мінулым годам гэта рэкорд: колькасць гасцей павінна павялічыцца амаль на тысячу чалавек. Акрамя прадстаўнікоў Еўропы, якія традыцыйна прысутнічаюць на форуме, Віцебск наведаюць прадстаўнікі Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, Катара, Японіі, некаторых краін Лацінскай Амерыкі. Упершыню на форум прыедуць удзельнікі з Калумбіі. Такім чынам у фестывалі возьмуць удзел прадстаўнікі 44 краін з усяго свету.

Віцебск вельмі старанна рыхтуецца да фестывалю па ўсіх напрамках — ад праграмы Славянскага базару да тэхнічнага аснашчэння. Вакол сцэны размясціліся светладыёдныя экраны, каб з любой кропкі было відаць усе дэталі таго, што адбываецца на сцэне. Вечаровая ілюмінацыя стварае ў горадзе казачную атмасферу.

Сярод новаўвядзенняў гэтага года — марафон «1000 вершаў пра Віцебск», святочнае шэсце артыстаў, музыкантаў і танцораў, каб узняць афіцыйны сцяг фестывалю, а таксама вялікія опэнэйры. Яшчэ адна навінка гэтага года — уласная кніга рэкордаў форума, у якую будуць запісваць усе новыя і цікавыя падзеі.

Арганізатары вырашылі зрабіць ухіл на дакументальныя матэрыялы мінулых гадоў, таму юбілейны форум стане своеасаблівым дайджэстам гісторыі фестывалю. Але і пра моладзь таксама не забыліся: акрамя традыцыйных конкурсаў — дзіцячага і маладых выканаўцаў эстраднай песні — пасля закрыцця фестывалю адбудзецца начная дыскатэка.

Традыцыйна Белтэлерадыёкампанія пакажа ўсе асноўныя мерапрыемствы «Славянскага базару ў Віцебску». Каналы «Беларусь 1» і «Беларусь 24» асвецяць цырымонію адкрыцця фестывалю, канцэртную праграму «Саюзная дзяржава запрашае…», конкурс выканаўцаў эстраднай песні і закрыццё форуму. «Беларусь 2» пакажа канцэртную праграму «25 імгненняў лета» і гала-канцэрт «Віцебск збірае сяброў». А канал «Беларусь 3» будзе рыхтаваць штодзённы фестывальны дайджэст.

**Юлія РУДЗЕНКА**

## У пісьменніцкім асяродку

# Чытво для маладых і юных

Вынікі чарговага конкурсу буктрэйлераў, арганізаванага Мінскай гарадской арганізацыяй Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, урачыста абвясцілі ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Ганаровымі гасцямі ўрачыстасці сталі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў і дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі. Сярод шматлікіх конкурсантаў — навучэнцы і студэнты сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў г. Мінска.

Тут жа праходзіў і буккросінг, арганізаваны сумесна Мінскім гарадскім камітэтам БРСМ і Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Незвычайная імпрэза — тэлемостпрэзентацыя беларускага нумара калінінградскага часопіса «Мурр+», адрасаванага юным чытачам, — адбылася ў Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы г. Мінска. Аўтарамі сумесна падрыхтаванага нумара «Мурр+» сталі айчынныя пісьменнікі Генадзь Аўласенка, Уладзімір Мазго, Алесь Карлюкевіч, Алег Ждан, Міхась Пазнякоў, Андрэй Смятанін, Анатоль Зэкаў, Кацярына Хадасевіч-Лісавая, Таццяна Прышчэпава.

Творчае супрацоўніцтва беларускіх і калінінградскіх літаратараў, бібліятэкараў і выдаўцоў будзе пашырацца.

Цікавым атрымаўся абласны фестываль-конкурс «Маладзёжны квартал 2016» на Ганцаўшчыне ў межах рэспубліканскага патрыятычнага праекта *Кніга.BY* — па ініцыятыве БРСМ і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Праект мае на мэце прапаганду чытання і кнігі, актыўнае далучэнне моладзі да культурна-асветніцкай дзейнасці. Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад нашай чытачкі Таццяны Маляўка.

У літаратурную гасцёўню пры Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя В. Праскурава завіталі айчынныя творцы — празаік Валерый Гапееў і паэтэса Святлана Локтыш. Творчасць Валерыя Гапеева добра знаёмая чытачам Ганцаўшчыны. Яго аповесці «Ведзьміна тоня», «Пастка для рыцара», «Урокі першага кахання» ды іншыя творы добра чытаюцца і падлеткамі, і дарослымі, актыўна абмяркоўваюцца ў розных аўдыторыях. Як аказалася, Валерый Мікалаевіч не толькі добры пісьменнік, але і цікавы суразмоўца, які любіць і добра валодае роднай мовай.

Святлана Локтыш — сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар зборніка вершаў «Вышыванка», на сустрэчу з падлеткамі прынесла свой дзённік, які вяла ў такім жа ўзросце. На памяць пра сустрэчу госці пакінулі аўтографы ў сваіх кнігах з фондаў бібліятэкі.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

## Конкурсы

# Летапіс пагранічнікаў

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Дзяржпагранкамітэт Рэспублікі Беларусь плённа супрацоўнічаюць не першы год. Адзін з кірункаў узаемадзеяння — правядзенне творчых спаборніцтваў. Абвешчаны VI Міжнародны літаратурны конкурс «Межы Садружнасці — мужнасць, гонар і адвага», прысвечаны 25-годдзю ўтварэння Савета камандуючых Пагранічнымі войскамі краін-удзельніц СНД.

Конкурс закліканы паказаць этапы станаўлення і развіцця пагранічных ведамстваў краін-удзельніц СНД, гісторыю пагранічнай службы, ролю сучасных пагранічнікаў у барацьбе з новымі выклікамі і пагрозамі пагранічнай бяспекі на знешніх граніцах краін-удзельніц СНД. Яго мэты — адлюстраваць сродкамі літаратуры працэс станаўлення і развіцця пагранічнай службы, папулярызаваць вобраз воіна-пагранічніка, паказаць сучаснае жыццё граніцы. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца літаратары і журналісты, супрацоўнікі, ваеннаслужачыя і ветэраны пагранічных ведамстваў краін-удзельніц СНД.

Тэмы конкурсных работ: гісторыя пагранічнай службы (пагранічных ведамстваў краін-удзельніц СНД); удзел воінаўпагранічнікаў у Вялікай Айчыннай вайне ды іншых баявых дзеяннях; сучаснае жыццё і побыт граніцы.

На конкурс прымаюцца раманы (аб'ём — 20 аўтарскіх аркушаў), аповесці (10 аўтарскіх аркушаў), апавяданні, нарысы (2 аўтарскія аркушы), падборкі вершаў (2 аўтарскія аркушы). Дасланыя творы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Творчае спаборніцтва праводзіцца па трох намінацыях: «Раман / аповесць», «Апавяданне / нарыс» і «Падборка вершаў». З палажэннем аб конкурсе можна азнаёміцца на сайце Саюза пісьменнікаў Беларусі (*www.oo-spb.by*). Конкурсныя творы прымаюцца да 1 мая 2017 года ў Дзяржаўны пагранічны камітэт Рэспублікі Беларусь (220012, г. Мінск, вул. Талбухіна, 21) з пазнакай «На міжнародны літаратурны конкурс». Тэлефон для даведак: (017) 287-06-15.

**Арына КРАЙКО**

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**8 ліпеня** — *у Уздзенскую раённую бібліятэку на прэзентацыю кнігі «История бабушкиного детства» Галіны Нічыпаровіч. Пачатак у 11.00.*

**10 ліпеня** — *у вучэбны цэнтр органаў пагранічнай службы (г. Дзяржынск) на прэзентацыю кнігі «Зачараваны Беларуссю» з удзелам аўтара Уладзіслава Цыдзіка, паэтаў Дзяржыншчыны і барда Генадзя Парыкіна. Пачатак у 11.00.*

**12 ліпеня** — *у публічную бібліятэку № 1 г. (г. Мінск, вул. Маскоўская, 18) на прэзентацыю кнігі Алены Стэльмах «Дуб і крумкач». Пачатак у 10.30.*

**14 ліпеня** — *на творчую сустрэчу навучэнцаў Міничаны ў школе «Со-Творчество» (секцыя «Паэзія») па адрасе: г. Мінск, пл. Свабоды, 13, актавая зала. Пачатак у 11.00.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**14 ліпеня** — *на вечар-партрэт «Не може сэрца жыць без крылаў» да 129-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала з удзелам віцебскіх пісьменнікаў у гарадскую бібліятэку імя М. Багдановіча (вул. Берасцена, 6). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**17 ліпеня** — *на паэтычны марафон «1000 вершаў пра Віцебск» з удзелам віцебскіх паэтэс Тамары Красновай-Гусачэнка, Маіны Бабарыка, Алены Крыклівец ля помніка А. С. Пушкіну. Пачатак а 9-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**14 ліпеня** — *на музычна-паэтычную вечарыну «Пяю з сэрца», прысвечаную 140-годдзю з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч (Цёткі) з удзелам музыкаў, літаратараў і літаратуразнаўцаў г. Гродна ў Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці па адрасе: г. Гродна, вул. Савецкая, 8. Пачатак у 17.30.*

**15 ліпеня** — *на раённае свята «Стану песняй у народзе» і ў паэтычную гасцёўню «Жыве Алаізы песня» да 140-годдзя з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч (Цёткі) з удзелам паэтаў Гродзеншчыны ў Шчучынскую раённую бібліятэку (Гродзенская вобласць, г. Шчучын, вул. Леніна, 50). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**19 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з паэтам-парадыстам Пятром Сямінскім пад назвай «Творим из мгновений мосты поколений» у Мастоўскую раённую бібліятэку (Гродзенская вобласць, г. Масты, вул. Савецкая, 19а). Пачатак а 12-й гадзіне.*

# Сустрэча ў Соснах

## *Рэдкі здымак Янкі Купалы*

Мая маці Любоў Кузьмінічна з уласцівай разумнай жанчыне катэгарычнасцю і адначасова з інтэлігентным далікацтвам раіла не спяшацца з друкам гэтага здымка.

— Само наплыве, калі трэба выказацца, — сказала яна ў 1966 годзе. — Шмат людзей на здымку. Мо выявіцца хто жывы з фатаграфаваных, разам будзеце сузгодніцца. Добра, каб расшырылася пра Купалу і фота.

Гады ляцелі стралою. Запыты разаслаў, ніхто не адзываўся пра прыезд трох беларускіх пісьменнікаў — Янкі Купалы, Платона Галавача, Уладзіміра Хадыкі — у маі 1933-га ў Сосны Любанскага раёна Мінскай вобласці, пра іх выступленні перад навучэнцамі філіяла рабфака Горы-Горацкага земляробчага інстытута (у будучым Белсельгасакадэмія). Запрасіў іх на сустрэчу мясцовы выкладчык, пісьменнік Алесь Жаўрук.

Размяшчаўся рабфак у Соснах Любанскага раёна Мінскай вобласці, у камуне БВА. З прыезджымі двойчы фатаграфаваліся навучэнцы, сярод іх — Санько Аляксей Андрэевіч (1914 — 1941), у будучым выкладчык хіміі і біялогіі, завуч Вяліка-Слуцкай дзесяцігодкі Слуцкага раёна Мінскай вобласці. 4 жніўня 1933 года ён выслаў фота сваёй маці Санько Зосі Васільеўне ў вёску Дудзеў (па пераназве — Дзюдзева) Слуцкага раёна. Пасля жаніцьбы перадаў здымак жонцы Любе, а тая — старэйшаму сыну, аўтару гэтых радкоў.

На гэтым фота навучэнцаў болей, чым на здымку, які зберог С. А. Харко (розніца ў шэсць чалавек). Невядомага фота не было і ў музеі Янкі Купалы. Толькі ў 2013 годзе я перадаў яго копію.

Здымак у Беларусі друкуецца ўпершыню.

***

Першым з прафесіяналаў вывучаў пажаўцелы здымак таленавіты мастак Генадзь Галубовіч, загадчык рэдакцыі мастацка-графічнага афармлення выдавецтва «Беларусь». Яго я папрасіў давесці здымак да ладу. Галубовіч не выканаў просьбу. Не будзе сам рэтушаваць, другім не дазволіць:

— Якасць будзе, але рэтуш схавае адценні, знішчыць асаблівасці здымка. Ён — даўніна, адзіны на ўсю Беларусь. Людзей не пазавеш з таго свету, каб паразняліся. Рэтушаваць такі — псаваць, — зрэзоніў спецыяліст.

Менавіта ён спярша перазняў здымак пра Купалу, павялічыў. Не было б яго парады і дапамогі, здымак не ўцалеў бы.

Гераічных учынкаў па адстойванні беларускіх прыярытэтаў у Галубовіча мноства. Узгадваю, як ён насуперак указанням куратараў з Дзяржкамвыдаў БССР і СССР, аддзелаў ЦК КПБ дамогся прыёму ў Першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава: у Маскве шавіністычаць, адхіляюць нашу кнігу пра старажытны беларускі жывапіс XII—XVII стагоддзяў. Згода маскоўскага выдавецтва змясціць усе беларускія іконы ў альбом жывапісу рускага мастацтва няправільная.

— Няхай выйдзе альбом праз год, два, але ў Мінску, у нас, крупіцы ацалелага мы павінны захаваць, — настойваў ён. — Нішчым сябе і тут.

На маленькага загадчыка маленькай рэдакцыі выдавецтва ціснулі: не пратэстуй, выконвай, згаджайся, потым выдадзім твой беларускі жывапіс.

Не мой гэта жывапіс, усёй Беларусі, адказваў Галубовіч. Напісаў дзве дакладныя Пятру Машэраву.

Прыём Галубовіча ў Машэрава зацягнуўся. Разгляд ілюстрацый з меркаванага альбома Машэраў закончыў нечакана: тэрмінова выклікаў загадчыка аддзела ЦК КПБ Савелія Паўлава, сакратара па ідэалогіі Аляксандра Кузьміна.

Яны не супраць беларускай мастацкай даўніны, яны за альбом, але званілі з Дзяржкамвыда СССР, інструктар ЦК КПСС… наш альбом таксама выйдзе… пасля маскоўскага, пасля агульнага.

— Першым ва ўсіх каталогах свету будзе значыцца маскоўскі альбом, беларускія іконы стануць спярша рускімі… Замежнікі не стануць разбірацца. Навошта адваёўваць, прасіцца, калі можна сваё не аддаваць, — настойваў Галубовіч.

Альбом пра беларускія старажытныя іконы, нашмат даўнейшыя за маскоўскія, — дастойная памяць пра майго сябра і калегу Генадзя Галубовіча.

**Валер САНЬКО**



*Янка Купала — чацвёрты справа ў трэцім шэрагу.*

## *Дайджэст*

• Першы пераклад Рыгведы на беларускую мову з'явіўся ў кнігарнях Мінска. Унікальную работу выканаў малады беларускі паэт Ігар Кулікоў з мовы арыгінала. Рыгведа — найстаражытнейшы твор індыйскай цывілізацыі, напісаны на ведычным санскрыце не пазней, чым у 1500-м да н. э. Беларускі пераклад ахоплівае першую з дзесяці частак Рыгведы. Акрамя ўласна паэтычных перакладаў у амаль 600-старонкавай кнізе змешчана мноства пазнавальных артыкулаў пра мову і светапогляд старажытных *арыяў*, якія тварылі Рыгведу.

• Мемарыяльная дошка Давіда Сімановіча з'явілася ў Віцебску. Адкрыццё адбылося ў дзень нараджэння паэта, 26 чэрвеня. Аўтарамі мемарыяльнай дошкі і помніка, які ўстаноўлены на яўрэйскіх могілках у Віцебску, сталі віцебскія скульптары Аляксандр Гвоздзікаў ды Іван Казак. На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі гарадскіх улад, прыхільнікі творчасці Давіда Сімановіча, яго сябры і знаёмыя.

• Біржавы саюз нямецкага кнігагандлю правёў экспертызу, якая паказала высокі ўзровень запатрабаванасці кніжных друкаваных выданняў. Толькі 4,5% апытаных немцаў карыстаюцца электроннымі выданнямі, пры гэтым абарот кніжнай галіны на тэрыторыі краіны перавысіў 9 мільярдаў еўра за агляданы тэрмін. Для жыхароў Германіі купля кніг у мясцовых кнігарнях, на бензазапраўках, у супермаркетах застаецца традыцыйным заняткам. Кожная шостая кніга набываецца шляхам анлайн-пакупкі. У Германіі дзейнічае паняцце фіксаванага кошту за кнігу.

• Вулічная бібліятэка на Крамлёўскай набярэжнай у Казані сутыкнулася з праблемай кніжных злодзеяў. Па правілах за карыстанне фондам плаціць не трэба, а каб забраць упадабаную кнігу дадому, наведвальнік мусіць прынесці выданне наўзамен. Аднак знайшліся кнігалюбы, якія правілы парушаюць, забіраючы кнігі незваротна. Хоць бібліятэка адкрылася толькі тыдзень таму, з паліц зніклі сотні выданняў. У выніку энтузіясты, якія хацелі далучыць да чытання сваіх землякоў, вымушаны ўсталяваць камеры відэаназірання для таго, каб выявіць несвядомых чытачоў на месцы злачынства.

# «Кругі раю» для Купалы

## Дзень нараджэння Песняра адзначылі ў РТБД

**Выдатны беларускі паэт Янка Купала, які нарадзіўся ў чароўны час старажытнага народнага свята Купалле, асабіста ўдзельнічаў у станаўленні нацыянальнага беларускага тэатра. У памяць пра ўнёсак Песняра ў гэтую справу Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі наладзіў святочную імпрэзу «Святкуем Купалле разам з Купалам».**

Гасцей тэатра чакала насычаная праграма: сустрэў публіку аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь «Гасцінец», далей у гледачоў была магчымасць наведаць выстаўку «Завуся я толькі Янка Купала», якая рыхтавалася сумесна з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы.

— Гэтую акцыю мы праводзім ужо трэці год. Янка Купала — знакавае імя для беларускай культуры, таму ў гледачоў ёсць магчымасць не толькі паглядзець спектакль, але і пазнаёміцца з жыццём выдатнага беларускага паэта праз выставу. Такі комплекс мерапрыемстваў спрые папулярызацыі беларускай мовы, нашай культуры і нашых традыцый, — расказаў дырэктар РТБД Уладзімір Карачэўскі.

Галоўнай падзеяй вечара стаў спектакль «Кругі раю», прысвечаны Песняру. Аўтар і рэжысёр-пастаноўшчык Святлана Навуменка імкнулася адлюстраваць у сцэнічнай пастаноўцы жыццё Янкі Купалы, яго творчасць і нялёгкі лёс. Творы паэта і факты з жыцця перапляліся ў дакументальнай алегорыі, таму гледачы ўбачылі на сцэне і некаторых персанажаў са знакамітых твораў. Галоўную ролю ў спектаклі выконвае акцёр Дзяніс Паршын.

Сабіраць гасцей на Купалле у РТБД ужо стала традыцыяй. Святкаванне скончылася купальскімі песнямі і абрадамі, падрыхтаванымі сумесна з ансамблем «Гасцінец», узяць удзел у якіх маглі ўсе гледачы.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

# У гонар народнага паэта

**У прыхільнікаў творчасці Янкі Купалы ёсць магчымасць не толькі ўшанаваць паэта, але і ўзяць удзел у мерапрыемствах, прысвечаных значнаму для сапраўдных беларусаў дню.**

У парку імя Янкі Купалы 7 ліпеня быў праведзены музычна-літаратурны зварот «Палымянае слова Паэта». На цырымонію ўскладання кветак да помніка Купалу далучыліся беларускія паэты, мастакі, даследчыкі, школьнікі.

У гонар 134-й гадавіны з дня нараджэння вялікага паэта Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка» праводзіць традыцыйнае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў «З адною думкаю аб шчасці Беларусі…», якое адбудзецца 9 ліпеня пры ўдзеле Саюза пісьменнікаў Беларусі, Маладзечанскага райвыканкама. У месцы нараджэння паэта, вёсцы Вязынка, можна паслухаць цудоўныя вершы Купалы, пакладзеныя на музыку, узяць удзел у «Кветкавым этнафестывалі ў Янкі Купалы», сплесці купальскі вянок дыяметрам 4,5 метра і стаць часткай вялікага спяваючага карагода.

100-годдзе вянчання Янкі Купалы і Уладзіславы Станкевіч будуць адзначаць 10 ліпеня на «Купалаўскім фэсце» у Радашковічах. У касцёле Святой Троіцы, дзе хрысцілі Янку Луцэвіча, адбудзецца святая імша. Таксама варта чакаць грамадска-культурную акцыю «Чытаем Купалу разам», музычны канцэрт ад беларускіх выканаўцаў, мультымедыйную прэзентацыю выстаўкі «Ісці супольна праз усё жыццё», віктарыну «Ці ведаеш гэта пра Купалу?» і майстар-клас па народных вясельных танцах.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

# Жыццё з родным словам

Пайшоў з жыцця Міхась Шавыркін, руплівец на ніве беларускай культуры, шматгадовы рэдактар часопіса «Роднае слова». Узначаліў яго ў няпросты час, у 1987-м годзе, калі ў Беларусі выспявала ідэя незалежнай дзяржавы. Дзейнасць часопіса спрыяла разуменню самабытнай культуры праз папулярызацыю беларускай мовы і літаратуры, твораў выяўленчага мастацтва, тэатра, музыкі. І сам часопіс у той час быў неверагодна папулярны: у пэўны перыяд наклад даходзіў да 10000 асобнікаў. За культурным працэсам Міхась Шавыркін сачыў да апошняга часу, быў актыўным чалавекам. Яму было 68 гадоў…

Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю былога супрацоўніка, даследчыка творчасці Песняра, рупліўца на ніве роднага слова Міхася ШАВЫРКІНА і выказвае шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Цур мяне!

**Купалле — гэта час, калі, па ўяўленнях беларусаў, «нячыстая сіла» набірае асаблівую моц і можа нашкодзіць чалавеку. Напярэдадні свята мы вырашылі праверыць, ці добра вы ведаеце беларускіх «нячысцікаў»-шкоднікаў і сродкі абароны ад іх! За кожны правільны адказ запішыце сабе адзін бал.**

Пачынаем!

**Лазавік, багнік, аржавеннік, абыдзённік. Што з пералічанага не міфічная істота?**

Правільны адказ — абыдзённік. Гэта рытуальны ручнік, здольны абараніць людзей ад зла падчас эпідэміі, граду, засухі і іншых крызісных сітуацый. Астатнія згаданыя персанажы з'яўляюцца самымі натуральнымі «нячысцікамі». Лазавік жыве ў лазе, а багнік — на дне тарфяной багны, аржавеннік — у багністых мясцінах, быццам прыкрытых «іржою».

**Які з гэтых нячыстых духаў жыве не на прыродзе? Лесавік, кікімара, паветрык ці вадзянік?**

Правільны адказ — кікімара. Зараз пашырана ўяўленне, што кікімара жыве на балоце і выглядае як страшная і брудная старая жанчына, аднак сапраўдная беларуская кікімара — юная, і жыве яна побач з чалавекам — у падпечку. Кікімары не робяць людзям шкоды і нават імкнуцца дапамагаць па гаспадарцы. Праўда, у іх гэта не дужа атрымліваецца. Лесавікі, як вынікае з назвы, валадараць у лесе, вадзянікі — у вадзе, а паветрыкі — у паветры над балотамі.

**Лепшым абярэгам ад вадзяніка служыць: хлеб з мукі, змолатай на Купалле; свянцоная крэйда; залатая манета; зуб акулы.**

Правільны адказ — хлеб з мукі, якую змалолі на Купалле. Чалавек, што з'еў такі хлеб, робіцца недатыкальным для нячысціка, і той не можа зацягнуць яго на дно. Асвечаная ў царкве крэйда дапамагае толькі ў тым выпадку, калі ёй можна абвесці сябе ў кола, што нельга зрабіць на паверхні вады. Зуб акулы ў якасці абярэгу не вядомы беларусам, бо акулы не водзяцца ў нашых вадаёмах. Золатам ад вадзяніка не адкупішся.

**Хто такая бадзюля? Рагатая здань, якой палохаюць малых дзяцей; дух, які змушае чалавека валацужнічаць, гоніць яго з наседжанага месца; лекавая расліна; хмяльная настойка.**

Правільны адказ — дух, які змушае чалавека валацужнічаць, гоніць яго з наседжанага месца. Бадзюля «бадзяецца» каля дарог, а бліжэй да зімы пачынае туліцца да чалавека, пасяляецца ў хаце і чакае, пакуль той, усё прапіўшы, пойдзе па свеце. Каб пазбавіцца ад яе, трэба чыста вымесці і вымыць у хаце, а бруд выліць наводлег на захад сонца.

**Чалавек-ваўкалак, каб ператварыцца ў звера па ўласнай волі, павінен: перакуліцца праз асінавы пень, які, ссекшы дрэва, не перахрысцілі; з'есці кажана; выпіць вады з балота; скокнуць праз купальскае вогнішча.**

Правільны адказ — перакуліцца праз неперахрышчаны асінавы пень. Пра ўжыванне ваўкалакамі кажаноў і вады з балота можна дакладна сказаць, што такімі харчамі пярэваратні грэбавалі, аддаючы перавагу больш «людскай» ежы. А скокі праз купальскае вогнішча маглі знішчыць ваўкалака.



**Што азначае выраз «П'е, як апівéнь?» Чалавек ніяк не можа наталіць смагу; чалавек п'е вельмі мала або зусім не можа глядзець на вадкасць; чалавек п'е алкагольныя напоі, але пры гэтым амаль не п'янее; чалавек хмялее з першага глытка.**

Правільны адказ — так кажуць пра чалавека, устойлівага да алкаголю. Апівень у беларускай традыцыі — нячысты дух, які схіляе людзей да п'янства. Сам апівень пры гэтым застаецца цвярозым.

**Што можа зрабіць з чалавекам русалка, калі той падыдзе блізка да яе? Заказытаць да смерці; замарозіць; ператварыць у камень; змяніць яму пол.**

Правільны адказ — заказытаць да смерці. З-за гэтай асаблівасці на Беларусі пашырана яшчэ адна назва русалкі — казытка. Дарэчы, лепшым абярэгам ад русалкі служыць звычайная шпілька або булаўка.

**Як у народзе называецца ўзняты ветрам слуп пылу або снегу? Ведзьміны народзіны; чортава вяселле; лесавікова паляванне; жабіны хаўтуры.**

Правільны адказ — чортава вяселле. Убачыўшы слуп пылу або снежную віхуру, беларусы кажуць: «Чорт і ведзьма вяселле граюць!» Калі ўкінуць у такі віхур сякеру або нож, на ім можна будзе ўбачыць кроў нячысціка.

**Па народным павер'і, на млыне днём мелюць муку людзі, а ноччу… Рыбы; жабы; мышы; чэрці.**

Правільны адказ — чэрці. Хадзіць уначы на млын лічылася крайне небяспечным заняткам, бо можна было патрапіць пад негатыўны ўплыў нячысцікаў і нахапаць іх «сабе за пазуху».

**Лялькі, выробленыя з ношанага адзення, калі іх змясціць у калысцы дзіцяці, абароняць немаўля ад… камароў, змей, начніц ды крыксаў, пераахаладжвання.**

Правільны адказ: лялькі-абярэгі ахоўвалі дзіця ад начніц — нядобрых зданей, якія, па павер'і, перашкаджалі немаўлятам спаць і выцягвалі з іх жыццёвыя сілы.

**Падвядзём вынікі?**

**0 — 3 балы.** З беларускімі «нячысцікамі» вы знаёмы вельмі слаба, і кожны з іх можа вас лёгка абвесці вакол пальца. Асцярожней: магчыма, у бары за вуглом вас падкараульвае апівень, а тыя прывабныя дзяўчаты на траве ля вады — зусім не дзяўчаты, а русалкі, якія толькі і чакаюць, калі ж вы падыдзеце да іх знаёміцца!

**4 — 7 балаў.** Вы нешта чулі пра русалак, нешта ведаеце пра лесавіка, а аднойчы вам здарылася напіцца «да чарцей», і вы, на ўсялякі выпадак, навучыліся правільна хрысціцца? Віншуем вас: здаровы баланс язычніцтва і рэлігійнасці — умова шчасця, даўгалецця і штодзённага аптымізму!

**8 — 9 балаў.** У вас на шыі — крыжык, за пазухай — свянцоная крэйда, на майцы — булаўка (абавязкова галоўкаю ўніз), у руцэ — асінавы клін, а ў кішэні — кармiнны зборнік замоў ад усякай пошасці. Нам няма нагоды за вас перажываць: нячысцікі не могуць да вас падступіцца ні з бакоў, ні з тылу. Але ці не задужа іх многа ў вашым жыцці, калі вам патрэбна столькі абярэгаў?

**10 балаў.** Вы ўпэўнены, што ў вас на галаве няма маленькіх рожкаў, а за спінаю — нетапырскіх крылцаў? Вы настолькі добра арыентуецеся ў нячысціках, што мы падазраём вас у сувязі з імі!

Ведайце беларускую міфалогію!

**Алёна БЕЛАНОЖКА**

# Агонь свечак

**У другі дзень Тройцы ў вёсцы Навінкі Калінкавіцкага раёна прайшоў абрад пераносу свячы. Свяча — гэта комплекс рытуальных прадметаў, што звычайна складаецца са свечкі ды абраза. У Навінках гэта вялікі драўляны крыж, якім карыстаюцца і падчас пахавальных працэсій. Усе прадметы захоўваюцца ў адной хаце год і на другі дзень Тройцы пераносяцца ў наступную, разам з боханам хлеба на ручніку.**

Для вёскі гэта вялікая падзея. У Навінках няма царквы, таму для правядзення набажэнства прыязджае святар з суседніх Васілевіч. Абрад распачынаецца службай





у хаце, дзе стаіць свяча. Уласна перанос строга рэгламентаваны: свечку нясуць гаспадар з гаспадыняй хаты, абраз — чатыры незамужнія дзяўчыны, крыж і хлеб — старэйшыя паважаныя мужчыны. Па шляху працэсіі сцеляць саматканае палатно й ходнікі. Людзі імкнуцца падлезці пад свечку й абраз тры разы. Вераць, што гэта спрыяе здароўю і дабрабыту. Удзельнікі абраду — жыхары Навінак ды іх сваякі. Ёсць і паломнікі: людзі прыязджаюць адмыслова з суседніх вёсак і нават Гомеля.

Раней свячу бралі ў кожнай хаце вёскі, цяпер адмаўляюцца: тлумачаць тым, што, каб прыняць свячу, трэба зрабіць міні-рамонт, а гэта не па сілах. Тады выстаўляюць на вуліцу стол з хлебам, соллю і вадой, каб паказаць, што свячу, хоць і не могуць узяць, шануюць.

Старыя і новыя гаспадары свячы мяняюцца хлебам, новыя гаспадары бяруць яе і нясуць у хату, дзяўчаты абраз нікому не аддаюць, усталёўваюць на покуці самі. Абрад канчаецца набажэнствам у новай хаце свячы й застоллем у абодвух дварах: тым, што аддаў і прыняў святыню.Абрады пераносу свячы на розныя святы сустракаюцца па ўсёй Беларусі, але часцей ва ўсходняй частцы краіны.

**Алена ЛЯШКЕВІЧ,**
**фота Марыі РАЛЬСКІТЭ**

# «Родны кут»

**Ці добра мы ведаем наш «Родны кут»? Між іншым, лета — добрая нагода, каб павандраваць па сваёй краіне, пабачыць яе багацце і шматаблічнасць, зразумець вытокі яе культуры і асаблівасць гістарычнага развіцця. Праект «Родны кут» скіраваны на тое, каб нашы чытачы маглі скласці свае маршруты згодна з уласнымі зацікаўленасцямі: паглядзець гістарычныя і прыродныя аб'екты, узгадаць пра духоўныя і інтэлектуальныя цэнтры, прайсці шляхамі літаратараў і іншых знакамітых дзеячаў айчыннай культуры… Вандроўкі па Беларусі даюць магчымасць адпачыць і набрацца сіл. Таму менавіта з месцаў духоўнай сілы (дзе ёсць святыні, цудадзейныя абразы, крыніцы) мы сёння пачынаем.**

## Заслаўе як першакрыніца



У 986 годзе мястэчка Заслаўе сустрэла першую беларускую манахіню Рагнеду (Анастасію) і яе сына Ізяслава. Праваслаўе, верагодна, было духоўным суцяшэннем для полацкай князёўны, бо ў летапісе Ізяслаў згадваецца як чалавек, які ўшаноўваў манаскі чын і любіў чытаць Боскія пісанні. На месцы сярэднявечнага гарадзішча ўсталяваны помнік «Тысячагоддзе праваслаўнай царквы на Беларусі» — менавіта тут запаліўся першы агеньчык веры. Праўда, на думку навукоўцаў, гісторыя рэальных Рагнеды і Ізяслава магла быць крыху іншай...

З Заслаўем звязаны лёс яшчэ аднаго славутага чалавека, які прысвяціў жыццё служэнню Богу. У 1571 — 1572 гг. тут працаваў філосаф і гуманіст, удзельнік рэфармацыйнага руху Сымон Будны. Менавта ў Заслаўі асветнік пераклаў на польскую мову кнігі Старога Запавета.

Крокі Сымона Буднага памятае кальвінскі збор, узведзены на месцы старажытнага гарадзішча. Сёння гэта праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква. Белыя вежы царквы і пабудаванага праз два стагоддзі Марынскага касцёла ствараюць адмысловую панараму гістарычнага цэнтра Заслаўя.

Наведаць горад будзе цікава не толькі дарослым, але і дзецям: маленькіх гасцей чакае выдатная пляцоўка з арэлямі, вежамі і масткамі, а таксама этнаграфічны комплекс «Млын». Тут можна зазірнуць у хату завознікаў, агледзець кузню, пабачыць дызельны рухавік, якім карысталіся на заслаўскім млыне яшчэ ў 1940-я гады. І, вядома, узняцца на другі паверх драўлянага млына, пабудаванага у пачатку XX стагоддзя.

Таму Заслаўе — добры маршрут для тых, хто хоча трапіць у старажытнасць, а таксама пазнаёміцца з народным побытам.

## Святая зямля Полацкая

Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці, культуры і веры. Благаславёная, святая зямля. І калі сценам Сафіі не ўдалося захаваць свайго аўтэнтычнага аблічча, ды і храм цяпер выкарыстоўваецца ў асноўным для канцэртаў арганнай музыкі, а не для богаслужэнняў, то Спаса-Еўфрасіннеўская царква — святыня, намолене месца, куды ідуць тысячы паломнікаў. Тут спыніўся час, і праз тысячагоддзі мы ўяўна адчуваем прысутнасць і падтрымку святой заступніцы Беларусі Еўфрасінні. У храме, які быў пабудаваны па яе ініцыятыве, знаходзіцца рака з мошчамі святой. Нават пасля смерці Еўфрасінні Полацкай давялося прайсці доўгі шлях, каб вярнуцца ў родны горад. Вечны пакой прападобная Еўфрасіння знайшла на Гасподняй зямлі, у Іерусаліме, куды здзейсніла паломніцтва напрыканцы свайго жыцця. Калі ў 1187 горад захапілі егіпецкія войскі, мошчы святой перавезлі ў Кіева-Пячэрскую лаўру, дзе яны захоўваліся больш як сем стагоддзяў. Але на роднай зямлі ніколі не забывалі пра Еўфрасінню, і, пасля доўгіх прашэнняў, у 1910 годзе святыня вярнулася ў Полацк. Сёння Спаса-Еўфрасіннеўская царква і манастыр — прызнаны цэнтр беларускага праваслаўя і духоўнасці, тут можна адпачыць душой, прыклаўшыся да мошчаў прападобнай Еўфрасінні і пакланіўшыся Святому Крыжу, палюбавацца фрэскамі і набрацца моцы ў сцен храма, якія захаваліся з XII стагоддзя.



## Тураў і загадкавыя крыжы

Тураўскія каменныя крыжы — загадкавыя, маўклівыя сведкі даўніны. Паданні сведчаць, што іх было каля 12. Ці то яны былі межавымі знакамі княства, ці то язычніцкімі ідаламі. Пасля гібелі князя Тура і яго сына яны быццам бы прыплылі з Кіева супраць цячэння, адзін спыніўся ля вёскі Пагост і дагэтуль захоўваецца ў Крыжаўзвіжанскай царкве — ён быў святыняй усёй Тураўшчыны і носіць назву Часны крыж. Другое паданне сведчыць, што два каменныя крыжы прыплылі супраць цячэння да Турава, і плылі яны побач, нібы ўзяўшыся за рукі. Яшчэ адзін каменны крыж спыніўся каля Верасніцы. Усе каля двух метраў у вышыню. І усюды, калі іх выцягвалі з ракі, вада рабілася чырвонай. Цяпер адзін з крыжоў захоўваецца ва Усясвяцкай тураўскай драўлянай царкве, другі ўстаноўлены каля новага, збудаванага нядаўна сабора Кірылы і Мяфодзія. Загадкавыя і тыя



два крыжы меншага памеру, якія растуць на Барыса-Глебскіх могілках непадалёк ад замкавай гары. Адзін з іх звязваюць з месцам пахавання Кірылы Тураўскага, асветніка зямлі беларускай. На тэрыторыі Барыса-Глебскага манастыра для яго была ўзведзеная вежа, у якой асветнік пісаў свае творы і звяртаўся да тураўцаў. Цяпер яго велічны 7-метровы помнік упрыгожвае Замкавую гару.

## Цуды ў Жыровічах і Лаўрышаве

Хвалі зеляніны, сінія дахі і купалы, барочнае аздабленне цэркваў… Сустрэча са Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыром нагадвае не пра аскетычнасць хрысціянства, а пра духоўную радасць, якая спадарожнічае шчырай веры ў Бога. Каб узнавіць душэўныя сілы, можна не толькі наведаць службу, але і пакаштаваць гаючай вады з святой крыніцы.

Гісторыя манастыра пачалася напрыканцы XV стагоддзя з дзівоснага з'яўлення абраза Божай маці. Маленькія пастухі знайшлі яго ў густым вецці дзікай грушы і прынеслі ўладальніку Жыровічаў маршалу Солтану. На месцы знаходкі быў узведзены драўляны храм, побач пачала працаваць царкоўная школа, дзе вясковую дзятву вучылі пісаць і чытаць.

Другое з'яўленне абраза адбылося пасля пажару: спачатку вясковыя дзеці пабачылі на камені светлую дзеву ў нябесным ззянні, а потым разам з дарослымі знайшлі там абраз. Гісторыя Жыровіцкай іконы на працягу стагоддзяў нагадвала заможным людзям пра неабходнасць спагадлівага і добразычлівага стаўлення да падданых сялян, далучаных Богам да вялікіх цудаў.

Камень, на якім быў знойдзены абраз, стаў прастолам храма Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы, пабудаванага напачатку XVII стагоддзя. Побач з ім быў узведзены велічны Свята-Успенскі сабор,



а пасля і іншыя манастырскія храмы. Надзвычайным шанаваннем Жыровіцкага абраза Божай маці азначана XVIII стагоддзе — на той час у манастырскай хронiцы былі апісаны дзясяткі цудаў (сёння іх лік ідзе на сотні).

На Гродзеншчыне таксама знаходзіцца старадаўні Свята-Елісееўскі Лаўрышаўскі мужчынскі манастыр, заснаваны пры ўдзеле сына Міндоўга Вялікага князя Войшалка. Заснавальнікам манастыра лічыцца і прападобны Елісей Лаўрышаўскі, які таксама паходзіў са знакамітага літоўскага роду. Мошчы прападобнага мелі вялікую цудадзейную сілу. Вядомасць манастыру прынесла рукапіснае Лаўрышаўскае Евангелле, створанае да 1329 года. XIX стагоддзе было часам заняпаду манастыра. Пра яго гісторыю нагадвае адзіны будынак — Успенская царква, пабудаваная ў вёсцы Лаўрышава ў 1775 годзе.

Сёння манастыр узнаўляецца на пясчаным астраўку Незвішча на правым беразе Нёмана. Паломнікаў чакаюць утульныя гасцініцы, ёсць тут і пляцоўка для дзіцячых гульняў.

## Будслаў — месца духоўнага яднання



У вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці трэба пабываць кожнаму беларусу. Чалавеку-верніку — абавязкова. Сюды з'язджаюцца сотні паломнікаў з усіх куткоў нашай краіны, а таксама з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Латвіі, каб пакланіцца цудоўнаму абразу Маці Божай Будслаўскай у знакамітым касцёле бернардзінцаў. Гэты абраз — адна з самых галоўных каталіцкіх святыняў Беларусі. Першым яе ўладальнікам быў мінскі ваявода Ян Пац. Прыняўшы каталіцкую веру, ён здзейсніў паломніцтва ў Рым у 1598 годзе і атрымаў гэты абраз з рук самога Папы рымскага Кліменса VIII. Па вяртанні дадому змясціў у капліцы свайго віленскага палаца. Пасля смерці Яна Паца абраз перайшоў да Ісаака Сакалая, які перавёз яго ў Даўгінава. У 1613 годзе Ісаак прыбыў на набажэнства ў Будслаў і па просьбах манахаў ахвяраваў абраз у манастырскі, тады яшчэ драўляны, касцёл. Здаецца неверагодным, але гэта факт: падчас Вялікай Айчыннай вайны праз Будслаў тройчы праходзіла лінія фронту, але ніводная бомба не ўпала на храм — цудам захаваліся і касцёл, і знакаміты Будслаўскі абраз. Традыцыйнай штогадовай падзеяй з'яўляецца Будслаўскі фэст, які праходзіць 1 і 2 ліпеня. Памаліцца перад абразом Будслаўскай Божай Маці едуць з усіх куткоў свету.

Будслаў — гэта ціхае і велічнае месца беларускай зямлі, дзе на працягу ўсёй гісторыі — з часоў Рэчы Паспалітай да нашых дзён — адбываецца брацкія сустрэчы хрысціян розных канфесій. І па гэты дзень з'яўляецца месцам духоўнага яднання людзей.

**Дар'я ЛАТЫШАВА,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Знак сёстраў

**Па часе іх разлучае семдзесят год, а яднае пісьменніцкі лёс, стойкасць характараў, патрыятычныя перакананні.**

Алаіза Пашкевіч і Валянціна Коўтун… Прыгожыя рамантычныя жанчыны, высакародныя натуры прысвяцілі сябе роднаму слову, Айчыне, светлым ідэям. Абедзвюх аўтарак паяднаў векавечны «крыж міласэрнасці». Сімвалічна, што Валянціне Коўтун, аўтарцы дылогіі пра Алаізу Пашкевіч, сёлета споўнілася б таксама семдзесят год.

Дагэтуль застаецца для нас загадкай з'яўленне Валянціны Коўтун, маладзенькай выпускніцы сталічнага ўніверсітэта, у прыгранічных з Літвой Варнянах на Астравеччыне. Што Астравец — свету канец, на той час ведалі выпускнікі ўсіх устаноў. Вядома, прыказка вельмі перабольшвала. І ўсё ж — настаўніца са сталіцы! Хадзілі чуткі, нібыта маладая паэтэса ўдзельнічала ў студэнцкіх хваляваннях у Мінску, таму такое размеркаванне. Шкадую, што не запытаўся ў сваёй настаўніцы, добра знаёмай паэткі, пра гэты факт. Валянціна Міхайлаўна працавала на Астравеччыне ўсяго два гады. Выпусціла наш клас і з'ехала ў сталіцу.

Патрыятызм — адна з галоўных рыс Валянціны Коўтун. Кожная яе публікацыя як літаратуразнаўцы ці таленавітай паэтэсы была скіраваная супраць несправядлівасці, супраць скажэнняў беларускай гісторыі. Валянціна Міхайлаўна неадноччы публічна станавілася заступніцай Беларусі. Ужо сталай, прызнанай паэтэсай яна стварае Усебеларускі жаночы фонд святой Еўфрасінні Полацкай і больш як дзесяць год са сваімі аднадумцамі працуе дзеля захавання памяці пра беларускую асветніцу, прысвячае ёй раман, нязменна нагадвае пра значную ролю жанчыны ў грамадстве. Выгадавала дваіх сыноў, працавала ў рэдакцыях часопісаў і дзяржаўных выдавецтвах. Заўсёды востра рэагавала на грамадскія праблемы, што не магло не адбіцца на здароўі.

Яшчэ падчас працы ў Варнянах Валянціна Міхайлаўна, помніцца, надавала асаблівае значэнне вывучэнню творчасці Цёткі. Ужо тады яна жыла вобразам паэтэсы-рэвалюцыянеркі, змагаркі за роднае слова, за лёс беларускага народа. Яны нават былі падобныя знешне ў хвіліны ўзрушэння: вытанчана прыгожыя, стройныя, артыстычна далікатныя ў адносінах. А на занятках задуменная сучасніца глядзела ў акно на вясенні сад, чытала Цётчыны вершы, і нам, вучням старэйшых класаў, здавалася, што дэкламуе сама аўтарка з далёкіх часоў, з Пяшчына на Шчучыншчыне. Што цяпер таіцца, шмат якія хлопцы былі закаханыя ў маладую настаўніцу, бо некалькі гадоў розніцы ва ўзросце не мелі значэння ў маладосці.



Калаж Алесі Ісы

Прайшло шмат часу. Зрэдзь мы сустракаліся на дванаццатым паверсе выдавецтва «Юнацтва», дзе Валянціна Коўтун працавала, перабіраючы ў тым ліку мае рукапісы. З'яўляліся адна за адной яе таленавітыя патэтычныя кніжкі, ужо абаронена кандыдацкая па літаратуры. І раптам — навіна пра вялікі, дасканалы, гістарычна і сацыяльна значны твор пра Цётку. Наступная прыступка да вядомасці і прызнання — літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова. Стварэнне шырокамаштабнага мастацкага палотнішча запатрабавала працяглага часу, шмат духоўных і фізічных сіл. З цягам часу стала вядома пра шматлікія паездкі пісьменніцы па Цётчыных мясцінах, пачынаючы ад шчучынскіх Пешчыны, Старога Двара, Васілішак да беларускіх, літоўскіх, украінскіх і нават замежных архіваў — паўсюль, куды трапляла Алаіза Пашкевіч цягам кароткага, але бурлівага жыцця.

У прадмове да дылогіі «Крыж міласэрнасці» Валянціна Коўтун адзначала, што шмат часу прысвяціла збору матэрыялаў. Па метрычных кнігах Васілішкаўскага касцёла, якія захоўваюцца ў фондах гістарычных архіваў Гродна, яна высвятляла гады і прозвішчы з радавога дрэва Пашкевічы-Вызгі-Вінчы-Яцэвічы, углыб да Цётчыных дзядоў. Адзін з запісаў метрычнай кнігі: 1876 год, 3 ліпеня. У ваколіцы Пяшчына нарадзілася Алаіза Пашкевіч. Ахрышчана ў Васілішкаўскім касцёле 8 верасня. Тут жа засведчана: Алаіза Пашкевіч павенчана са Стэфанам Кайрысам 7 лютага 1911 года…

Каб уявіць жыццёвы вобраз Цёткі, В. Коўтун гартала шматлікія тамы вядомых бібліёграфаў, успаміны аднакурснікаў па вучылішчы Веры Поразавай і іншых асоб. Цяжка зразумець, хто гаворыць на старонках, чые словы, думкі і пачуцці гучаць у большай ступені — аўтаркі альбо гераіні — настолькі духоўна блізкімі яны падаюцца ў творы.

З асаблівым замілаваннем гучаць радкі, дзе Алаізе сняцца ў Вільні родныя мясціны, дзе сябравала з братамі Іваноўскімі. Гучыць здагадка: «І ці не Вацлаў упершыню запаліў у яе свядомасці свечку — ідэю Беларусі, беларускі знак. Алаізу ўжо кранулі яго палкія словы і шчырая вера ў будучыню, яго гатоўнасць самаахвяравацца беларускаму змаганню».

Здаецца, што часам хвароба юнай Алаізы, якая пачала падступацца так рана, забірае і сілы аўтаркі кнігі. І яны пакутуюць разам, пакідаючы радзіму падчас эміграцыі. (Дарэчы, у Львоўскім універсітэце праз шмат гадоў пасля Алаізы Пашкевіч будзе вучыцца і Коўтун.) Былі ў жыцці Пашкевічанкі пецярбургскі перыяд, дзе шлях барацьбы асветлены яркімі сустрэчамі з Антонам Луцкевічам, зноў жа з Вацлавам Іваноўскім. Сходкі, дэманстрацыі, спрэчкі. Нарэшце — арганізацыя спачатку падпольнага, а потым легальнага беларускага друку па ініцыятыве Цёткі і І. Луцкевіча.

Новае вяртанне ў Вільню. 1906 год — Цётка выдае «Беларускі лемантар», «Першае чытанне для дзетак беларусаў», «Гасцінец для малых дзяцей». У наступнае расставанне з радзімай, у Львове, Цётка пры дапамозе сяброў выдае паэтычныя зборнікі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская».

З асаблівым замілаваннем напісаныя радкі дылогіі, дзе Алаіза Пашкевіч успамінае сваю радзіму ці на кароткую часіну прыязджае дадому, дзе стрададворскія мужыкі «пакутліва змагаюцца з горкім сумам ад таго, што няма выйсця».

«…Ад сялібы Стэфана Пашкевіча да Васілішкаўскага гасцінца кіравала нешырокая дарога… Уся чорная і гразкая… Яна заўсёды здавалася Алаізе жывою і дрогкаю — дыхае, баліць…»

Прыпамінаюцца 130-я ўгодкі з Дня нараджэння Алаізы Пашкевіч ля помніка на яе магіле ў Старым Двары. Валянціна Коўтун чытае вершы, падпісвае знаёмым адну з апошніх сваіх кніжак «Свяча любові», дзе нямала радкоў прысвечана любімай Цётцы. Асэнсаванне асобы гэтай беларускай паэтэсы пачалося з паэм «На зломе маланкі» і «Суд Алаізы».

Перад расстаннем Валянціна Коўтун даверыла свае шматлікія занатоўкі, рукапісы, задумы і таямніцы добра знаёмай жанчыне-архівісту дзеля захавання і вывучэння. Архіў пісьменніцы ўтрымлівае і шмат матэрыялаў з біяграфіі Цёткі, сведчыць пра вялікую чалавечую павагу і любоў да старэйшай сястры — Алаізы Пашкевіч. Нездарма, звяртаючыся ў прадмове да галоўнай гераіні, аўтар заўсёды піша займеннік «Ты» з вялікай літары.

Раман Валянціны Коўтун побач з творамі Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Рыгора Бярозкіна, Лідзіі Арабей пра Пашкевічанку вылучаецца як своеасаблівая споведзь перад старэйшай крывічанкай — дарадчыцай, настаўніцай, пуцяводнай зоркай.

**Рычард БЯЛЯЧЫЦ**

# «Новая жанчына» эпохі мадэрнізму

**Актыўная і прынцыповая дзяўчына з акрэсленымі сацыяльна-палітычнымі поглядамі, якая вучыцца ва ўніверсітэтах буйнейшых еўрапейскіх гарадоў, свабодна вандруе па краінах Старога Свету і можа патраціць апошнія грошы, але дзіўным чынам вярнуцца з Італіі ў Беларусь…**

Алаіза Пашкевіч паўстае абсалютна сучасным нам чалавекам, вось толькі ўявіць яе эпоху даволі складана. Пачатак XX стагоддзя — гэта тысячы непісьменных сялян, сустрэчы рэвалюцыянераў на кватэрах у царскіх афіцэраў, эпідэміі смяротных хвароб… Барацьба за лепшую будучыню для рабочых і сялян натхняла Цётку на вершы, занадта радыкальныя для сучаснага гуманнага чалавека, — пры тым, што бацькі паэтэсы мелі ўласныя фальваркі, браты былі афіцэрамі, а ваеннаслужачых царскай арміі Пашкевічанка ратавала ад смерці падчас Першай сусветнай вайны, не шкадуючы ўласнага здароўя.

Алаіза Пашкевіч пазіцыянуецца альбо як паэтказмагарка, альбо як асветніца, якая, па словах Антона Луцкевіча, «усе сілы аддала на служэнне святой ідэі адраджэння беларускага народа». Не менш істотна, што біяграфія Алаізы Пашкевіч — гэта ўзорны жыццяпіс «новай жанчыны» эпохі мадэрнізму. На пачатку XX стагоддзя гендарная прыналежнасць ужо не разглядалася як перашкода для самарэалізацыі ў публічнай сферы, і асяроддзе нешматлікай беларускай інтэлігенцыі было ў гэтым плане абсалютна адэкватным.

Здаецца, не ўзнікала ніякіх сумневаў у тым, што жанчына нароўні з мужчынам можа быць пісьменніцай, рэдактаркай, актрысай, сябрам палітычнай партыі, заснавальніцай перыядычных выданняў… Вобраз маладой нацыянальна свядомай інтэлігенткі ідэалізуецца, паўстае абсалютна станоўчым, у аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы» (1919), трагікамедыі Янкі Купалы «Тутэйшыя» (1922). Беларускія пісьменнікі, безумоўна, разлічвалі на ўдзел жанчын у справе нацыянальнага адраджэння і ўспрымалі іх як сваіх правамоцных калег у розных відах дзейнасці — пра што, у прыватнасці, сведчаць літаратурна-крытычныя артыкулы Максіма Багдановіча, дзе неаднойчы згадваецца творчасць Цёткі і Канстанцыі Буйло.

Намаганнямі мысляроў і творцаў з Еўропы і суседніх краін праблема месца і ролі жанчыны ў сацыякультурных працэсах не патрабавала актыўнага дыскутавання. Праз жыццяпіс Алаізы Пашкевіч было фактычна зацверджана, што ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя жанчына магла свабодна абраць кірунак творчай працы і цалкам разлічваць на мужчынскае паразуменне. Дарэчы, у грамадска-палітычнай дзейнасці Цётка — жыхарка Расійскай імперыі — пачувалася больш вольна, чым многія і многія беларускія жанчыны, якія нарадзіліся пасля яе.

Праўда, жаночыя імёны, якія можна паставіць побач з імем Алаізы Пашкевіч, зоймуць літаральна некалькі радкоў побач з доўгім шэрагам імёнаў мужчынскіх. Канстанцыя Буйло, Зоська Верас, Паўліна Мядзёлка, Уладзіслава Луцэвіч, Ванда Лявіцкая, Леаніла Чарняўская… Як слушна адзначаў філосаф Уладзімір Конан, «бальшыня "заможных" афіцыйна далучаліся да "панскай" польскай альбо "господствующей" рускай культуры». Ідэя Беларусі была абсалютна новай для інтэлігенцыі Паўночна-Заходняга краю, элітарная беларуская культура толькі пачынала развівацца…

Нават у кампактным кнігазбораўскім выданні выбраных твораў Цёткі можна знайсці нямала пацверджанняў скептычнага стаўлення да справы адраджэння. "Звычайна не толькі чужыя, але і хатнія смяяліся нада мной і дакаралі за беларускасць як за "надуманую непатрэбшчыну"" — адзначала Уладзіслава Луцэвіч ва «Успамінах пра Цётку». Браты Іваноўскія, з якімі ў юнацтве сябравала Пашкевічанка, увогуле прылічылі сябе прадстаўнікамі трох нацыянальнасцей. Паводле Юрыя Туронка, «...Юрка быў паляк, Вацлаў — беларус, а Тадэвуш — літовец».

Дзяўчаты з інтэлігентных сем'яў, як правіла, апыналіся большымі канфармісткамі, чым Цётка ці Уладзіслава Станкевіч. А вясковыя дзяўчаты, якія былі носьбітамі беларускай мовы і беларускага светапогляду, не мелі належнай адукацыі, каб далучыцца да нацыянальнай інтэлігенцыі. Аўтаркі сялянскага паходжання колькасна значна саступаюць «сынам беларускай вёскі» — з літаратуры XX стагоддзя самыя яркія асобы — гэта Еўдакія Лось, Яўгенія Янішчыц, Данута Бічэль-Загнетава.

Імя Алаізы Пашкевіч не толькі адкрывае пералік айчынных жанчын-літаратарак, але і на працягу стагоддзя надае беларускам веры ў свае сілы. Жанчына можа быць не толькі эмацыянальнай, вытанчанай і артыстычнай, але і амбітнай, рашучай, мужнай. Інакш не атрымаецца значных здзяйсненняў — а ніва чакае…

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**На суісканне Дзяржаўнай прэміі Беларусі**

# Урокі пад вокладкай

Самы патрабавальны і самы суровы чытач — дзіця. Не валодаючы яшчэ ў поўнай меры ведамі пра Сусвет, дзіця надзелена надзвычайнай інтуіцыяй, абвостраным адчуваннем няшчырасці, фальшу, якое мы, дарослыя, з цягам часу пакрысе губляем. Дзеці не любяць, калі да іх ставяцца паблажліва, пазіраючы зверху ўніз. Яны ж усё-такі хаця і маленькія яшчэ, ды людзі.

Пісаць для маленькіх людзей, стасуючыся з імі праз кніжныя старонкі, — цяжка. Яшчэ цяжэй не проста стасавацца, але паспрабаваць навучыць, даць свайму чытачу штосьць карыснае, каб з маленькага чалавека паступова вырас сапраўдны Чалавек.

Карані нашых успамінаў цягнуцца ад калыханак, пястушак, казак. Хай цяпер не ўзгадаць тыя, пачутыя самымі першымі, але цень іх, адбітак назаўсёды застаецца ўнутры. І, можа быць, многія нашыя жыццёвыя рашэнні абавязаныя сабою менавіта гэтым ледзь улоўным успамінам.

## УРОКІ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

Кнігу Міхася Паўлавіча Пазнякова «Серабрыстыя чайкі» я ўпершыню пабачыла ў кнігарні. Пацягнулася рука, што называецца: вельмі ж прыцягальная вокладка. Над сінню раскінулі крылы два птахі, і такія самыя, белыя, быццам мара, кружаць пад вокладкай.




У кнізе россыпам перлін — казкі, і ўласна аўтарскія, і трактаванні народных сюжэтаў, апавяданні, а таксама — успаміны пра Вялікую Айчынную вайну, калісь пачутыя аўтарам ад маці. На першы, не дужа ўважлівы, погляд, здавалася б, не зусім сумяшчальнае напаўненне. Але ўсе гэтыя творы суіснуюць у дзіўным суладдзі, паяднаныя і аўтарскім стылем, і тонкай настраёвасцю, і той самай катэгорыяй «сапраўднасці», шчырасці, якая так жыццёва неабходная маленькаму — ды, зрэшты, і даросламу — чытачу.

Назва кнігі, абраная па назве аднаго з твораў, невыпадковая, таму што агульная танальнасць зборніка напоўніцу прадэманстравана менавіта ў аднайменнай казцы. Трагічная гісторыя кахання нарачанскай рыбачкі Святаславы, нягледзячы на смерць галоўных герояў, набывае нечаканы працяг: каханкі ператвараюцца ў прыўкрасных серабрыстых птушак. Такім чынам, жыццё, насуперак усім нягодам і выпрабаванням, не заканчваецца: «Нашчадкі тых загадкавых птушак сустракаюцца на Беларусі і сёння. Яны лятаюць над азёрнымі хвалямі і ўзіраюцца ў водны блакіт». Светлая задуменнасць, пералівістая, быццам луска рыбы, быццам сербрыстае пер'е чаек, суправаджае нас ад першай да апошняй старонкі.

У кожным тэксце прыхаваны свой урок, яркая ілюстрацыя пэўнай жыццёвай сітуацыі. Часам эмацыянальнае напружанне ў творы настолькі моцнае і красамоўнае, што рабіць высновы наконт сітуацыі прапануецца самому чытачу. Так, напрыклад, адбываецца ў апавяданні «Дзівачка», што разбіта на асобныя фрагменты-эпізоды, з якіх паступова ўтвараецца цэласная карціна. Мы суперажываем галоўнай гераіні — Наташы Ільянковай, разважаем над тымі няпростымі з этычнага боку абставінамі, у якіх яна апынулася. А пасля нечаканай развязкі апавядання мы натуральна абураемся — і Вікай, і Капіталінай Сяргееўнай, і ўвогуле той з'явай, што стаіць за такімі знешне «сацыяльна актыўнымі» і «станоўчымі» людзьмі.

У маленькім апавяданні «Летнім днём» на першы план выступае праблема сумленнасці і шчырасці — у першую чаргу, шчырасці з самім сабою. Самыя брыдкія ўчынкі ў свеце робіцца менавіта тады, калі «ніхто не падтрымаў, але ніхто і не запярэчыў». І ў фінале герой апавядання, Віталік, злосна выдзіраючы пустазелле, «нібыта яно перашкаджала яму есці белы наліў», насамрэч змагаецца з уласнай абыякавасцю, папушчальніцтвам.

Увогуле, пытанні маральна-этычнага плану апынаюцца ў цэнтры амаль кожнага твора ў зборніку: этыка стасункаў у соцыуме, этыка стасункаў з прыродай. Вельмі важна ў час прывіць дзіцёнку і нормы маралі, і элементарныя асновы этыкі. Гэта — як прышчэпка ад жорсткасці. Маленькі чалавек, які носіць у сабе хаця б пачатковае разуменне ўсеагульных законаў чалавечнасці, ніколі не забудзецца пра сумленне, пра дабрыню і спагаду, ніколі не выродзіцца ў вылюдка.

Пра тыя самыя сакраментальныя законы чалавечнасці ідзе гаворка і ў маленькім цыкле «З маміных аповедаў». Пра элементарную спагаду не забываецца афіцэр варожай арміі, але «нібыта-свой», паліцай, дашчэнту расчалавечваецца («Зычлівы немец»). Старая Марфа («Дабрата»), бясконца прыгожая і кранальная ў сваёй высакароднасці, здольная маліцца за ворага, пабачыўшы яго раскаянне: «Хай дачакаюцца дзеткі бацьку. Хай дабярэцца да сям'і салдат».

Словы, якія аўтар прамаўляе ў фінале аднаго з апавяданняў «ваеннага» цыкла, выбітна характарызуюць, як мне падаецца, увесь гэты раздзел: «Я пачуў гэты аповед ад маці яшчэ ў маленстве. І запомніў на ўсё жыццё. Напэўна, каб расказаць іншым…».

Сапраўды, варта зрабіць сабе такую зарубку на памяці і на сэрцы, каб заставалася там вечна не зарастаючай шаргаватасцю, каб не дазваляла страціць чалавечае падабенства.

## УРОКІ МЫСЛЕННЯ

Дакладней, калі верыць падназве, «Гульні з літарамі і словамі». Надпіс на вокладцы чытаецца ў адно слова, загадкавае і гучнае: «Гульняслоў».

Быццам новая часціна мовы. Інтрыгуе, ці не так?

Здавён вядома, што людзі — і ўвогуле ўсе жывыя істоты — лепей вучацца падчас гульні. Пагружаныя ў забаву, з лёгкасцю авалодваюць хітрасцямі самых розных майстэрстваў і нават таямніцамі мовы.




Ад найдрабнейшых часцінак, гукаў ды літар, праз словы і сказы, праз разнастайныя заданні кніга вядзе свайго чытача да грандыёзнага «канструктара» — тэксту. Проста прагартаць «дзеля птушачкі» не атрымаецца: вока чапляецца то за загадку, то за галаваломку. Трэба ўключаць кемлівасць, трэба задумвацца, разважаць.

Увогуле, узровень валодання мовай, слоўнікавы запас чалавека, лагічнасць яго маўлення — зазвычай прамое сведчанне ступені інтэлектуальнай развітасці. Без лагічнасці і паслядоўнасці мыслення, якія, дарэчы, гартуюцца арыгінальнымі заданнямі, напоўніцу авалодаць усёй сістэмаю мовы наўрад ці магчыма. Так, разуменне логікі выказвання — гэта фактычна разуменне сінтаксісу, пабудовы сказаў і тэкстаў. Нестандартнасць мыслення, багацце асабістага слоўніка — гэта сведчанне авалодання лексічным узроўнем. Мова і мысленне заўжды ідуць побач, адно непасрэдна ўплывае на другое.

На сёння, у эпоху развітых інтэрнэт-стасункаў, дзе маўленне часта максімальна эканамічнае, усечанае, спрошчанае, дзе скарачаюцца словы, дзе знікаюць (нібыта дзеля хуткасці) знакі прыпынку, дзе звужаецца слоўнікавы запас карыстальнікаў, вельмі важна, каб спрошчаная мова інтэрнэту не прывяла ў выніку да спрошчанага мыслення. Згадаем тут хаця б вядомы Оруэлаўскі навамоў (newspeak) — і хай будзе ён папярэджаннем.

Як пазбегнуць фатальнага «спрашчэння» думкі? Натуральна, вучыць дзяцей. Прапаноўваць нязвыклыя разнапланавыя практыкаванні, крэатыўнасць, развіваць здольнасць да разваг і крытычнага мыслення. Як толькі чалавечы мозг перастае рашаць новыя для яго задачы, як толькі пагразае ў звыкласці, стандартнасці, ён спыняе сваё развіццё.

З гэтай прычыны «Гульняслоў» падаецца мне адметнай кніжкай. Гэта падручнік — аднасчасова і мовы, валодання словам, і мыслення. Зрэшты, развіццё першага немагчыма без другога — і наадварот.

*Залівістыя песні на сасне*
*Кукуе нам сарока па вясне.*

Абсурдная і смешная сітуацыя. Але для таго, каб звязна патлумачыць, чаму гэта абсурдна, трэба згадаць цэлы шэраг нюансаў, звязаных і з мовою, і з ведамі пра навакольны свет. Або, напрыклад, мой асабісты фаварыт:

*На бярозе спеюць грушы,*
*А на дубе — вінаград.*
*Кот грыбы на лузе сушыць*
*І частуе мышанят.*

А яшчэ «Гульняслоў» прапануе вершы, крыжаванкі, разнастайныя — на любы густ — загадкі, шахматныя задачкі вы ж ведаеце, як ходзіць конь?), пытанні на агульную эрудыцыю, рэбусы і нават жартоўныя пытанні.

Выснова кнігі, на маю думку, досыць красамоўная, вынесена на адну з апошніх старонак:

*Каб свет чароўнай прыгажосцю*
*Вас ні на момант не пакінуў,*
*Шануйце мову не як госцю,*
*А як матулю, гаспадыню.*

Развіты інтэлект без інтэлігентнасці, без інтэлекту эмацыянальнага, без прывітых нормаў маралі і этыкі, без пашаны да роднага, свайго, сапраўды каштуе нямнога. Чалавек толькі тады становіцца Асобаю, калі развіты ўсебакова, гарманічна.

## УРОКІ ВЕРШАВАННЯ

Вершаваная, звышарганізаваная паўторамі-водгукамі мова заўсёды прыцягвае, заўсёды акцэнтуе ўвагу. Рэкламшчыкі, скажам, гэтай уласцівасцю актыўна карыстаюцца. А яшчэ немаўлятамі ўсе мы чуем выразную рытміку калыханак — і адчуваем, нават не асэнсоўваючы яшчэ, самую напеўную і пяшчотную плынь мовы.

Але, як і амаль што ўсяму на свеце, здольнасці ўспрымаць паэтычны тэкст трэба вучыць. Мне сустракаліся дарослыя людзі, абсалютна фізічна не здольныя чытаць вершы: інфармацыя з твора да іх папросту не даходзіць, асалоды ад вобразнасці, ад самай арганізацыі радкоў яны не атрымліваюць. Вось — не прывучылі ў свой час, не прывілі культуры верша.

Дык ці можна гэтаму навучыць? Пакінем убаку нават утылітарнае значэнне завучвання тэкстаў для развіцця памяці. Ці можна прывучыць да верша?

Мяркую — можна. Калі правільна да гэтага падысці.

Што да кнігі Міхася Пазнякова «У родным краі», тут пад адною вокладкай — безліч менавіта вершаваных тэкстаў, арыентаваных на дзяцей: і ўласна вершы, і лічылкі, і небыліцы, і смяшынкі, і загадкі, і скорагаворкі. Вершы, задзейнічаныя ў гульнях, прыносяць радасць і паступова робяцца часткаю жыцця, уваходзяць у побыт. Вершаваная мова не маркіруецца чужою, наадварот, разглядаецца як нешта блізкае, зразумелае, сваё. Менавіта




па такіх дробных прыступках забаўлянак ды лічылак чытач, сталеючы, паступова падыходзіць да твораў класікаў, да найлепшых узораў сусветнай паэзіі.

Для дзяцей — а яны, памятаем, чытачы дужа патрабавальныя — немагчыма пісаць без дабрыні і ўсмешкі. І гэта не смех над маленькім чытачом, не паківанне і падступнае падміргванне цераз яго плячо такім самым вялікім, як аўтар, не. Гэта мусіць быць дабрадушная, зычлівая, а самае галоўнае — шчырая ўсмешка.

Вось, скажам, як тут:

*— Ну і Віця! —*
*Дзед бурчыць. —*
*Бач, на ім*
*Усё гарыць…*
*Я гляджу*
*І ледзь не плачу,*
*Ды ніяк*
*Агню*
*Не ўбачу.*
*Віця ж — брат*
*Старэйшы мой —*
*Абалью яго вадой.*

Разабраўшы памылку малодшага брата, маленькі чытач і ўсміхнецца, і ацэніць таксама шчыры (хай і крыху недарэчны) клопат пра сваіх блізкіх. І, магчыма, запомніць смешныя радкі — каб пасля камусьці пераказаць. Панясе верш з сабою.

Ад скорагаворак жа разлятаюцца чыстыя, яркія гукі, і ў словах гэтых — паэтычная вобразнасць, яркая, запамінальная:

*Крочыць водарным верасам*
*Шчодры, радасны верасень.*

Верш, гэтая квінтэсэнцыя вобразнасці, развівае мастацкае мысленне, дазваляе афармляць думку паэтычна, прыгожа, нестандартна, дазваляе ўзняцца над сухімі высновамі і канстатацыямі. Гэта, безумоўна, прыдасца, гэта дапамажа, чым бы ні вырашыў займацца ў сталым жыцці пакуль яшчэ маленькі чытач.

Галоўнае — каб далі магчымасць навучыцца. Пакуль не позна.

***

Кожная са згаданых тут кніг — быццам урок з наборам практыкаванняў. Важных, патрэбных, карысных. І пры гэтым адметных, арыгінальных, цікавых і пабудаваных на гульні — з тэкстам, са зместам, з чытачом.

Падмурак асобы — кнігі. І, каб дом стаяў трывала, матэрыял для падмурку трэба выбіраць з асаблівай уважлівасцю, нават з асцярожнасцю.

Не пабудуеце замак на пяску.

Не выхаваеце Чалавека, не прывіўшы яму чалавечнасці, не прывучыўшы мысліць ды ўспрымаць.

То давайце ж гуляць са словамі — з роднымі словамі ў родным краі. І хай вечна кружаць над намі, навяваючы крыламі натхненне, серабрыстыя чайкі.

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ**



Уладзімір ЛІПСКІ

# Уліпкі

***

Працiраў рамкі з фотакарткамі,
Затрымаўся ля бацькавага партрэта.
«Здарова, татка!»
Пазірае на мяне пільна.
Маўчыць.
А ў вачах — строгасць і дабрыня.
Я перад ім — дзіця.
Той Валодзька, які сек
некалі востраЙ сякеркай дрот.
А пасля бацька «сек» мяне
шырокай, балючай падпружкай.
Частаваў гэтай пякучкай
і за двойкі ў дзённіку.
«Ах, бацька, як жа я ўдзячны
за тваю практычную педагогіку!..»
Як помню, мой Сцяпан,
ад цямна да цямна ў клопатах.
Рукі яго залатыя
маглі змайстраваць вазок, бочку,
самапрадку, маслабойку, лыжку…
Хату нам збудаваў.
Маме ткацкі станок зрабіў.
А гуляць не ўмеў.
Не цярпеў, калі хто з дзяцей
лынды біў, варон ротам лавіў.
Бацька мой родны,
толькі дарасламу мне дайшло,
які ж ты цярплівы, валявы,
які ж ты праведны і чысты.
Выпадкова адкрываю народны каляндар.
Бог ты мой! Сёння — дзень Сцяпана.
«На святы Сцяпан кожны сабе пан».
І я пан над сваімі пачуццямі.
Сцяпан у грэкаў азначае — вянец.
Дык жа і ты, татка Сцяпан, —
вянец майго жыцця…

***

Паэт Аляксей Пысін прызнаўся:
«І не мой то грэх,
Што ненавіджу
Баязліўцаў, здраднікаў, прайдох…»
Чаму і яны апякаюць маё сэрцы,
Гэтыя прайдзісветы?
Мне і шкада іх, бо людзі ж.
І боязна, бо не ведаеш,
калі і чым уджаляць.
І страшна за дзень новы,
бо з кораня крапівы
вырастае новая пякучка.
А самае балючае,
што баязліўцы,
здраднікі,
прайдохі
ёсць і сярод тых,
хто называе сябе пісьменнікам.
І гэта не мой грэх,
што іх я ненавіджу.
Вырвалася гэта з душы,
як споведзь,
у Вялікі Пост.
Натхніў на гэта
мой любімы паэт-франтавік,
сціплы і праўдзівы
Аляксей Васільевіч Пысін.

***

Толькі цяпер зразумеў
вялікага паэта Аркадзя Куляшова:
«Ператварацца буду зноў і зноў
З ідэі ў плоць, з жыцця ў жыццё другое…
Жыву, і пачуццё ў мяне такое,
як быццам мне не пяцьдзясят гадоў,
А пяць стагоддзяў — самае малое».
Гэтыя радкі паэт напісаў,
Калі мне было дваццаць два гады.
Хіба мог я тады паверыць,
што я магуператварацца
з жыцця ў жыццё,
што магу ў свае гады ўвабраць
цэлыя стагоддзі.
А на самой жа справе —
так і ёсць!
Калі не ўцяміў,
што было да цябе,
хіба ж спазнаеш свой век,
хіба захочацца ісці ў новы?
А калі ты не ператвараешся
з жыцця ў жыццё,
калі табе кожны год
не новае жыццё,
дык навошта конціш неба?
Пра гэта вялі размову
За сяброўскім застоллем.
Натхнёна выгукалі тост:
«З Новым годам!»
А той год, што толькі пражылі,
становіцца безнадзейна старым.
Мы крочым з жыцця
ў жыццё другое…
Дык будзьма заўжды Людзьмі!

***

Сёння праплыў у басейне
свой сто шосты кіламетр.
За год, аказваецца,
я адолеў кролем і брасам
водны шлях, роўны да Нясвіжа
ці да Барысава, Маладзечна.
Пабываў у сямнаццаці гарадах,
у пятнаццаці пасёлках, вёсках.
Выступіў у розных аўдыторыях
восемдзесят восем разоў.
Прачытаў трыццаць шэсць кніг.
Выдаў сваіх чатыры.
Напісаў аповесць-казку
«Грошык і таямнічы кошык».
Жыў штодня «Вясёлкай», «Бусем».
Клапаціўся пра Дзяцей.
Перажываў за Айчыну сваю,
за планету чалавечую
і космас над намі.
Хваляваўся за сям'ю —
жонку, дзяцей, унукаў.
Знаходзіў час для сяброў,
тэатраў, прыроды, дачы.
Шукаў з вудай удачы…



Юлія АЛЕЙЧАНКА

***

Кожны раз, як грукаюць дзверы
За тваёй непаможнаю спінай,
Застаюся ў пакоі дзяўчынай
З чорна-белай артхаўснай стужкі,
Што адчула: дзесьці за морам
Памірае вялізны кіт.

Бы вар'ятка, хапаю блакіт
Венаў неба за марляй-фіранкай.
Покуль рэжуць трамваі горад,
Покуль латаюць крылы анёлы,
Покуль латаюць сэрцы ўрачы.

Ад сябе немагчыма ўцячы.
Колькі б з даху ні лётаць у сне,
Колькі б ні ўваскрасаць па вясне.
Бо ты прывідам сіняга кіта
І ў выраі знойдзеш мяне.

***

Вясновае неба няпэўнае,
Як вочы дзяўчыны далёкай,
Што чаіцай белай над Свіслачу,
Што пенай чырвонай над кубкамі,
Што шчасцем шалёным над розумам.

У яе — доўгі шнар над каленкаю,
У цябе — толькі пах яе слодычы
І словаў гарачых вязьмо.

Хто будзе судзіць вас,
Як хочацца
З Сусветам быць шчыльна,
навобмацак,
на смак яго квецень адчуць…
«Так швидко, так мало»
…і роспачна,
Бы ў песні між Мінскам і Кіевам,
У паветры між вашымі вуснамі,
У залеве між сонечных дзён…

* * *

Сэрца даўно раздадзена:
каму — каханне, каму — нянавісць,
каму — дараванне,
каму — гарачыя слёзы віны.

Ды што ж тады
фантомным пульсуе болем,
рэбры ламае знутры,
на вольную волю просіцца?

Пэўна, мая надзея,
бязглуздая птушка шчасця,
спевы якой пачуеш
нават праз мур забыцця…

* * *

Спеюць брусніцы ў чароўным лесе,
Ходзіць лясун па шаўковых травах.
Рэхам раблюся журботнай песні,
Пахам раблюся моху гаркавым.

Лашчу лістотай твой твар і плечы,
Драпаю рукі карой старою.
П'ю без краёў дурнап'янавы вечар
Цёплай, прадзорна-ціхай парою.

Я не пушчу і заблытаю сцежкі,
Блісну прызыўна лускою русалкі.
Хай дагарае раса на ўзмежку,
Стомлены вецер дыхае палка…

* * *

Гартаваным жалезам на вуснах тваіх застанецца
Пацалунак апошні ў гарачцы запозненай стрэчы.
Да чужога цяпла маё сэрца няўмольна імкнецца,
Чорнай коткай у бездань сягае ізноў недарэчы.

Мне б зацішна было пад пагодлівым дахам тваім,
Мне б утульна было ў вузле тваіх рук неспакойных.
Толькі б'ецца трывога ў вокны птахам жывым,
Толькі кліча дарога прасторам дураслівa-вольным…



Аксана ЯРАШОНАК

***

Дождж у госці просіцца нахабна,
Грукае па шыбах і дзвярах,
Тупае пад вокнамі на ганку
І з разгону ўскоквае на дах.

Вецер, падхапіўшы кроплі-струны,
Расчыніў акенца неспадзеў…
Дождж прыпаў да твару пацалункам —
Так маёй гасціннасці хацеў.

## Бывай, паўднёвы край

Леаніду Северу
і ўсім арганізатарам
Міжнароднага літаратурнага
фестывалю «Берагі дружбы»

Бывай, паўднёвы край,
Я на Радзіму еду.
І прывязу дамоў
З сабою ў цягнік
Цяпло азоўскіх хваль
І сум данскіх паэтаў,
І безліч шчырых слоў
Уласнаму радку.
А ў месцы, дзе Самбэк*
Салдат вядзе ў нябёсы,
Дзе Танаіса** ўздых
Спыняе часу бег.
Дзе трох краін навек
Перапляліся лёсы,
Пакіну назаўжды
Кавалачак сябе.

*Мемарыял «На Самбэкскіх высотах» у Няклінаўскім раёне Растоўскай вобласці.
** Танаіс — археалагічны музей-запаведнік у Растоўскай вобласці.

***

Раніцай пахмурна-соннай
Вочы расплюшчыць змагла я
І не з будзільніка звонам,
І не з размовай трамваяў,
Нават не з сонца праменнем
Цёплым, пяшчотным, дрыготкім
І не з канцэртамі пеўняў,
Як нашы слаўныя продкі…

Што ж пабудзіла так рана?
Твой пацалунак, каханы.

## Антыдэпрэсіўнае

Ліпень распрануў да шортаў,
Промнікі з нябёсаў звесіў
І прашапацеў лістотай:
— Хопіць, мілая, дэпрэсій…

Напаіў сунічным сокам,
Адурманіў зелянінай
І на шчокі з-пад аблокаў
Цёплыя дажджынкі скінуў.

Разняволіў, развяселіў,
Хваляю рачной аблашчыў,
Падарыў смуглявасць целу,
А душу напоўніў шчасцем.

## Дождж

Летний дождь, летний дождь
Начался сегодня рано.
Летний дождь, летний дождь
Моей души омоет раны…
**І. Талькоў**

Сёння дождж, нібыта у Талькова,
Зранку распачаў сваё «тук-тук»,
І сугучча ліпеньскіх сімфоній
Кроплямі ляціць да нашых рук.

Вось яна, жаданая залева,
Амывае горад і душу.
І мае напружаныя нервы
Супакоіць зноў кракплісты шум.

Позіркам, прасветленым і новым,
Гляну скрозь дажджынкі на акне…
І калонкі голасам Талькова
Ціха заспяваюць для мяне.

## На станцыі метро «Плошча Якуба Коласа»

У Мінску на станцыі класіка
У слоіках кроп з агарода.
І льецца музычная класіка
Між тлумных мурою перахода.

Суніцы тут водарам дражняцца,
Валошкамі — не надзівіцца!..
Вясковы пейзаж прыгадаецца
У сэрцы бетоннай сталіцы.

Няхай жа на станцыі класіка
Сталічным валошкавым летам
Ствараюць сучасную класіку
Натхнёныя Мінскам паэты!



Таіса СУПРАНОВІЧ

# «Славянская кроў, яўрэйская кроў…»

*Урывак з аповесці*

Аляксей паступіў ва ўніверсітэт пасля арміі. Яшчэ там, у войску, зразумеў: каб яму, вясковаму хлопцу, паступіць, неабходна быць партыйным. У арміі гэта не складана. Аляксей меў жаданне, хоць было гэта на той час дзіўнавата для хлопца, паступіць на біялагічны факультэт. У школе біялогію выкладала яго любімая настаўніца Таццяна Іванаўна. Яна магла расказваць пра любую расліну гадзінамі. Вучні, нават неслухі, сядзелі на яе ўроках як зачараваныя. Аляксей хацеў стаць не школьным настаўнікам, а навукоўцам-біёлагам. А яшчэ марыў працаваць у медыцынскім інстытуце, быць загадчыкам кафедры біялогіі, ставіць вопыты на марскіх свінках, пацуках. Да здзяйснення мэты было далёка, але першую прыступку Аляксей пераадолеў — паступіў.

На пачатку верасня ўніверсітэт апусцеў: студэнты і выкладчыкі паехалі на бульбу. Аляксея пакінулі ў прафкаме. Старшыня студэнцкага прафкама, жанчына пад сорак, звальнялася, Аляксея пакуль што рыхтавалі намеснікам. Ён сядзеў у цішы кабінета, чытаў кнігу, адказваў на тэлефонныя званкі. Раптам у кабінет уляцела-ўварвалася дзяўчына. Збялелая, спалоханая, яна нязвязна прасіла, каб Аляксей дапамог вынесці на насілках яе бацьку з сардэчным прыступам. З «хуткай» прыехалі ўрач і медсястра — жанчыны. Аляксей кінуўся за дзяўчынай. Хворы аказаўся вядомым прафесарам.

На наступны дзень дзяўчына прыйшла падзякаваць Аляксею: бацьку палягчала. Што казаць — стары чалавек, мог бы ўжо не працаваць, але ж адданы сваёй рабоце. Валя (так звалі дзяўчыну) таксама любіць біялогію, сама ўжо кандыдат навук, працуе ў Акадэміі навук, піша доктарскую. Ды яшчэ мае гадзіны ў бацькі — чытае лекцыі. Маўляў, бацька ў знак падзякі хоча запрасіць Аляксея на абед, калі выйдзе з бальніцы.

Праз два тыдні прафесар сапраўды праз дачку запрасіў Аляксея ў госці. Хлопец саромеўся, але пайшоў. Падумалася: яму вунь колькі гадоў яшчэ вучыцца, не пашкодзіць такое знаёмства. Аляксей ніколі ні ў кога дома не быў, акрамя аднавяскоўцаў, а тут, у гарадскім прафесарскім доме, старадаўнім, з высокай столлю, усё ўражвала так, што ўжо не рады быў, што згадзіўся на гэты абед. У кухні не елі — толькі гатавалі ежу. Праз акенца яе падавалі ў сталовую, дзе стаяў вялікі стол з крэсламі. Прыгожы абрус абрамлялі карункі. Елі адмысловыя стравы — не тое што ў «абшчазе».

Аляксей мімаходзь заглянуў і ў іншыя пакоі. На сценах віселі карціны, на сцянным дыване месцілася цэлая калекцыя кінжалаў, корцікаў ды іншай экзатычнай зброі. Валя паглядала на Аляксея, чырванела, саромелася, як быццам гэта не ён, а яна ў гасцях. У каракватай сукенцы яна выглядала нашмат маладзейшай, чым падалося пры першай сустрэчы.

Аляксей вярнуўся ў інтэрнат. Чатыры койкі, хлопцы ўжо спалі. На стале — сухія хлебныя крошкі, шкуркі ад жоўтага сала…

З гэтага абеду пачаліся спатканні Аляксея і Валі, паходы ў тэатры і кіно. Грошай у Аляксея заўсёды было ў абрэз, і білеты купляла Валя. Не сказаць, што Аляксей пакахаў Валю. Ён, канечне, разумеў: яна вельмі разумная, адукаваная, але ж — ні ценю какецтва, ні кроплі жаноцкасці. Да таго ж ёй, здавалася, было абсалютна ўсё роўна, у што яна апранутая.

Але ж Аляксею падабалася бываць у прафесарскім доме, там было камфортна, утульна і спакойна. Ды і Валя дома здавалася больш прывабнай у сваім каракватым халаціку. Але, бывала, думалася, што гэтая абсалютная «павернутасць» да навукі не ёсць дабро, бо, маючы грошы, магла б яна хоць знешне прыбірацца. Дык не ж, галоўнае — навука. Але Валі Аляксей падабаўся, ды яшчэ як!

А тут з Масквы прыехаў брат прафесара. Ён працаваў у Крамлі, жыў у цэнтры сталіцы. Хітры, асцярожны, пралічваў усё наперад і рэдка калі памыляўся ў сваіх разліках. Сядзелі за сталом, дзядзька бачыў, як пляменніца мітусіцца каля маладога хлопца, і хітра ўсміхаўся. Потым выйшлі падыхаць свежым паветрам, і дзядзька пачаў распытваць як бы няўзнак пра Аляксеева жыццё, пра сям'ю. А потым проста ў лоб сказаў, што калі Аляксей возьме шлюб з Валяю, то ён, безумоўна, дапаможа вясковаму хлопцу выбіцца ў людзі. Перш за ўсё, вельмі добра, што ён, Аляксей, партыйны. Але гэта само па сабе не гарантыя, што пасля інстытута ён зробіць кар'еру…

Пайшлі ў дом, дабавілі па чарцы. Пагаманілі браты пра сваё, сямейнае. Потым выйшлі ізноў на двор. І дзядзька працягнуў. Калі яны з Валяю возьмуць шлюб, а тут і сумнення быць не можа, раіў Аляксею перавесціся на завочнае аддзяленне. Потым уплывовы сваяк уладкуе яго ў гаркам партыі — спачатку інструктарам. Ну а пасля, канечне, дапаможа і далей. «Нашто табе гэтая біялогія? Ты ж не вар'ят, каб праседжваць дні і ночы над мікраскопам. Ды хіба гэта грошы для аспіранта ці нават кандыдата?! А там адразу ўдвая больш будзеш мець і кватэру атрымаеш. Ды і біялогія — навука для цябе неперспектыўная, даздасі патрэбныя экзамены і ў «наргас» пяройдзеш. Будуць праблемы — я дапамагу, ды і брат таксама».

Дзядзька паехаў дадому, але ўжо хутка прыехаў на вяселле. Не сказаць, што з боку Аляксея ў гэтым шлюбе быў голы разлік. Валя яму падабалася перш за ўсё розумам і сумленнасцю.

Валя зацяжарала. Сама была ад радасці на сёмым небе, а асабліва — бацькі, якія ўжо і не думалі, што апантаная навукай дачка ашчасліўіць іх унукам ці ўнучкай. Аляксей жа тым часам перайшоў на завочнае аддзяленне і перавёўся ў наргас. Яго ўзялі ў гаркам партыі інструктарам. А грошы — удвая большыя, чым у інжынера. Усё як бы добра, але...

Маці Аляксея неўзлюбіла нявестку. Па-першае — на восем гадоў старэйшая за сына, падругое — руская (Аляксей быў «заходнікам») ды гарадская... Прыедуць сын з нявесткаю, а маці носіцца як у ліхаманцы, бразгае ў злосці дзвярыма, грыміць талеркамі. Што ні зробіць нявестка — усё не так. Карову не падоіць, пайшла палоць грады з морквою — павырывала тоненькія расточкі. Ды яшчэ і сабаку з ланцуга спусціла! А Эмір злосны, як воўк. Папёр на загуменне і задушыў чужую авечку, якая там паслася. Гаспадар авечкі запрасіў сорак рублёў кампенсацыі. Маці адсцябала Эміра пугаю, а Валя толькі



лашчыла яго… Па матчыным выразе твару Аляксей бачыў, што яна з задавальненнем выцяла б пугаю і нявестку. І яшчэ маці не падабалася, як Валя апранаецца.

— О-о! Бало (гэта яна так гаварыла «бывала»), я як прыбяруса, ды прайдуса па вёсцы, ото ўсе глядзяць. Бабы зайздросцяць, а мужыке любуюцца. У стане бліскучым пасакам падпержуса, спадніца шырокая ў клетачку, а сарочка вышываная. Як арціства з кіна. Бацько твой супроці мяне як вахлак, добра хоць ты, дзіцятко, не па ім, ды і дзеўчыны мала чаго ад яго ўзялі. Да грошай толькі сквапны, не прывядзі божа, з гэтай сквапнасці і загінуў як шлупень.

Тут была сямейная гісторыя. Аляксеева маці, Тэрэза Міхайлаўна, выйшла замуж у 1953 годзе, па тых мерках позна, дваццаць пяць гадоў ужо было. За ціхмянага, на чатыры гады маладзейшага за сябе Косціка. У вёсцы ўсякае казалі пра Тэрэзку — і што гуляшчая была ў дзеўках і нават ужо замужам падгульвала, і што старэйшая дачка не ад Кастуся. Як бы там ні было са старэйшымі сёстрамі, а Аляксей быў кучаравы, як Кастусь, і з твару таксама падобны, толькі характарам і натураю ў маці.

Бацька Аляксея па-свойму любіў маці. Бывала, калі тая загульвала, а бацьку абрыдла слухаць добразычліўцаў з намёкамі і падказкамі, мусіць разы з два хадзіў да Нёмана тапіцца. Ізноў жа толькі цешыў людзей гэтым сваім няўдалым самагубствам, бо тапіцца кідаўся на водмелі, няўдала барахтаючыся ў іле. Але калі ў чалавека ў галаве засела думка загубіць сябе — то рана ці позна ён гэта зробіць.

Маці Косціка, Аляксеева бабка, нарадзіла сына ў дзеўках і, пакінуўшы яго немаўляткам на сваю маці, з'ехала з палюбоўнікам з суседняй вёскі (дарэчы, жанатым) у Еўропу. А потым лёс закінуў іх ажно ў Аўстралію. Спачатку ад іх не было ні слыху ні дыху, а пасля, перад вайною, яшчэ за палякамі, Косцікавай бабцы пачалі прыходзіць пераводы ў доларах. Яна іх не трациіла — берагла для ўнука. Ужо потым Аляксей даведаўся, як нялёгка даставаліся яго дзеду і бабе гэтыя долары. Дзед Франц быў дужы, у адрозненне ад свайго пабочнага сына Кастуся. Тут, на радзіме, працаваў кавалём. Вось і прыдаўся яму ў Аўстраліі кавальскі спрыт. Быў ён нейкі час і золатаздабытчыкам. Адсюль і пачалі патроху збірацца грошы. Ды і выжыў Франц дзякуючы сваёй асцярожнасці, памяркоўнасці ды дужасці. Купілі з жонкай маленькае ранча — нават не ранча, а дамок. Потым дабудоўвалі. Сталі разводзіць авечак, спачатку да сёмага поту працавалі самі, потым сталі наймаць людзей. Гандлявалі воўнаю, навучыліся рабіць авечыя сыры для сябе і на продаж. Быў час, калі Франц наймаўся да іншых гападароў стрыгчы авечак. У гэтай справе стаў лепшым на ўсю акругу. За дзень мог пастрыгчы паўтары сотні жывёл. З гэтага таксама меў добрую капейчыну.

Паднімалі дзяцей, але маці бясконца гаравала па старэйшым сыне, пакінутым на радзіме Косціку. З таго часу перад самай вайной і прысылаліся пакрыху даляры. Пасля вайны, хоць было цяжка, бабка Косціка не страціла ніводнага амерыканскага грошыка, але перад смерцю паказала ўнуку патаемнае месца. Косцік ужо браўся на дзецюка, ведаў, што гэта вялікія грошы, і перахаваў іх: склаў у шкляны слоік і замураваў у грубку. Канечне, не ўсе, але большасць. Хоць Косцік і быў трохі нягеглы, але пра яго казалі: «Ого! Ён багаты. За ім любая дзеўка не прападзе, ён жа мае даляры!» Тэрэзка за тымі «далярамі» багатага жыцця не адчула. Але муж яе, бывала, прызнаваўся, што яны ў яго ёсць. «Дык давай пусцім на гаспадарку, пабудуем лазню, дакупім лесу, дабудуем прысценак да хаты, а то трое дзяцей, душымся, лічы, у адным пакоі». Дзе там!.. І слухаць не хацеў. «Вунь дзеўчыны будуць выходзіць замуж, станем мы з табою адорваць — а тут то і выкладзем перад усімі даляры. Ото дзіва будзе!»

Дзіва, канечне, было, ды яшчэ якое дзіва... Праз гады выходзіла замуж старэйшая Аляксеева сястра. Не за долары браў яе хлопец — разам вучыліся ў тэхналагічным інстытуце. Жаніх і слыхам не чуў пра тыя амерыканскія грошы, кахаў ён Ларысу, і яна яго таксама. На вяселле прыехала многа студэнтаў. Перад дарэннем Кастусь выдзеўб дзве цагліны, дастаў слоік. Пачаў адкрываць, страсянуў, перакуліў — у рукі пасыпаўся толькі прысак. Ад шматгадовай гарачыні банкноты ператварыліся ў кучку сатлелай паперы…

Каму наканавана павесіцца — той не ўтопіцца. Кастусь перакінуў вяроўку, якою навязвалі на пашы цялушку — і вось табе прадаўжэнне вяселля, хаўтуры. Аляксей быў яшчэ малы, але да цяперашняга часу з горыччу, смуткам і незагойным болем успамінае той цяжкі для сям'і час. Сястра, хоць людзі казалі, што не будзе з такога вяселля шчасця ў шлюбе, жыве з мужам у любові і згодзе.

Трагічную вестку тады паслалі ў Аўстралію. Яшчэ жывая была зусім старая Кастусёва матка. Там жылі Кастусёвы сястра і брат, якія нарадзіліся ўжо ў Аўстраліі. Дык потым тыя пісалі, што маглі б пераслаць Кастусю грошай колькі б ён папрасіў, абы не было гэтай бяды.

Выходзіла так, што ў Аляксея на цяперашні час у Аўстраліі жыве шматлікая радня — сталыя дзядзька і цётка, іх сем'і ды сем'і іхніх дзяцей. Але пра гэта, працуючы ў гаркаме, стараўся ніколі нікому не гаварыць. Пройдзе час, і паедуць Аляксей з Валянцінаю, ужо доктарам біялагічных навук, знаёміцца з аўстралійскай раднёй…

**Штрыхі**



# На чароўнай расонскай зямлі

Калі ўзгадваю самыя прыгожыя краявіды, якія бачыў у сваім жыцці, памяць паслужліва пасылае мне, нібыта на кінастужкы, высокі бераг і цёплыя, чыстыя хвалі возера Нешчарда на Расоншчыне, востраў, да якога памкнуўся даплысць адзін з удзельнікаў нашай вандроўкі, вясёлае вогнішча і чыстае бясхмарнае неба ў спякотны ліпеньскі вечар.

І гэта не адзіны пейзаж з расонскага краю сярод цёплых успамінаў пра гэтую слаўную зямлю, апетую з далёкіх часоў ураджэнцам гэтых мясцін Янам Баршчэўскім, які стаў знакамітым пісьменнікам дзякуючы сваёй цудоўнай кнізе «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях».

Творчыя вандроўкі не раз прыводзілі мяне сюды: і ў сам гарадок, такі ўтульны і прывабны, і ў маляўнічае мястэчка Краснаполле сярод стромых сасновых бароў, і да паўнаводнай рэчкі Межна, дзе быў штаб партызанскай брыгады ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Дарэчы, у гэтых краях ваяваў з ворагам у складзе народных мсціўцаў будучы кіраўнік савецкай Беларусі Пятро Машэраў. Гэта ў многім дзякуючы яму ў цэнтры Расон паўстаў цудоўны музей баявой славы, у якім захоўваецца нямала каштоўных экспанатаў, што сведчаць пра гераічнае мінулае краю.

А яно, гэтае мінулае, звязана ў многім з гісторыяй старажытнага Полацкага княства. Паводле мясцовых паданняў, на тэрыторыі раёна ёсць «Гара Рагнеды», якая знаходзіцца на паўвостраве Перавоз паміж вусцем ракі Ушачы пры яе ўпадзенні ў возера Дрысы і вытокам ракі Дрысы. Паводле іх, ударам каменнага молата тут быў забіты князь Рагвалод, а потым пахавана княгіня Рагнеда. Паводле звестак А. Кіркора і А. Семянтоўскага, і на самой гары, і ў возеры Дрысы ў XIX ст. часта знаходзілі каменныя молаты і паліцы, што таксама можа сведчыць пра існаванне тут старажытнага скандынаўскага пасялення і культ Тора.

Ну, калі наконт Рагнеды і Рагвалода можна пасумнявацца, — гэта хутчэй прывабная казка для турыстаў, — дык тое, што тут нарадзіліся нашы славутыя пісьменнікі Генадзь Бураўкін і Мікалай Матукоўскі, ведаю дакладна. Некалі ва ўтульным кабінеце аднаго з былых кіраўнікоў раёна Генадзя Шаршнёва я быў удзячным сведкам цікавых успамінаў пра пасляваенныя часы ды іх суровае дзяцінства.

Такая зямля не можа не нараджаць паэтаў. І хай не ўсе расонцы выйшлі на ўзровень творчасці сваіх славутых землякоў, але чыстае і шчырае беларускае паэтычнае слова жыве на гэтай зямлі.

*Удзячны я травам і кветкам,*
*І тым, каго ў сэрцы нашу.*
*Спагада, як ранак улетку,*
*Маю саграрае душу.*

Гэтыя радкі належаць мясцоваму паэту Аляксандру Матошку. Сёлета ён адзначае свой шасцідзесяцігадовы юбілей. І дзіцячыя гады, і далейшы працоўны шлях яго звязаны з роднай Расоншчынай. Вершы яго друкаваліся ў перыядычным друку, выходзілі асобнымі кніжкамі. Не раз на старонках «Звязды» ён друкаваў свае нявыдуманыя гісторыі. Менавіта такія людзі разам з прывабнай прыродай — галоўнае багацце краю.

І яшчэ. Той, хто бываў у Расонах, ведае, які цудоўны, пахучы хлеб тут пякуць. Па гэты хлеб аматары прыязджаюць нават з Полацка. У некаторым сэнсе нават сімвалічна, бо толькі рупнымі рукамі, добрымі сэрцамі і духоўным багаццем працавітых і шчырых маіх землякоў, якія вырошчваюць і пякуць гэты хлеб, і мацуецца сіла народа на зямлі, што нам дадзена лёсам.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Пошук узаемапранікненняў

Цімох Ліякумовіч — імя ў беларускім літаратуразнаўстве вядомае. Хаця ўжо каля двух дзесяцігоддзяў жыве ў ЗША. Так склаўся яго лёс, лёс яго сям'і...

Вядомасці, між іншым, спрыяюць не толькі даўно, у 1960 — 1990-я гг. зробленае, але і сённяшнія здабыткі творчай асобы. У чыкагскім штомесячніку «Земляки» ураджэнец Беларусі вядзе рэгулярную старонку «Беларускія зарніцы». Большасць матэрыялаў гэтага выпуска — культурнае жыццё Беларусі. І дзе толькі можна — у амерыканскіх выданнях на рускай і беларускай мовах Цімох Барысавіч выступае з артыкуламі пра беларускую літаратуру, яе повязі з іншымі літаратурамі. Піша нарысы пра беларускіх, рускіх і украінскіх пісьменнікаў. Толькі ў апошні час — пра А. Пушкіна, М. Лермантава, Л. Талстога, Т. Шаўчэнку, Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю, В. Быкава, У. Караткевіча, М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна, Я. Брыля, А. Мальдзіса... У ЗША літаратуразнаўца выявіў сябе і як перакладчык беларускай паэзіі ды прозы на рускую мову. У полі зроку Ц. Ліякумовіча — вершы, апавяданні, навелы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Васіля Быкава, Янкі Брыля, Алега Лойкі, Уладзіміра Арлова, Васіля Жуковіча... І гэта далёка не ўсе беларускія пісьменнікі, чыю творчасць прапагандуе ў ЗША наш зямляк.

Як бачым, кола зацікаўленняў літаратуразнаўцы, перакладчыка звязана з лепшымі, найбольш цікавымі чытачу розных пакаленняў аўтарамі. Іх творчасць вабіла, прыцягвала Цімоха Барысавіча дома, у Беларусі, працягвае цікавіць і далёка за акіянам.

Уражвае і тое, што вучоны, літаратар актыўна супрацоўнічае з беларускім друкам. Як з літаратурна-мастацкім, так і з часопісамі навуковымі, выданнямі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, выданнямі розных ВНУ краіны. Цімох Барысавіч — завочны ўдзельнік многіх навукова-практычных канферэнцый, якія ладзяцца ў Мінску і іншых гарадах. У даследчыка — добрыя стасункі з калегамі-літаратуразнаўцамі, рознымі навуковымі цэнтрамі Беларусі. Ды і на расійскую літаратуразнаўчую, гісторыка-літаратурную дзялянку вучоны зазірае. У коле зацікаўленняў Ц. Ліякумовіча — жыццёвы і творчы шлях Аляксандра Твардоўскага, аднаго, відаць, з самых блізкіх да беларускай паэтычнай плыні рускага паэта. І не толькі таму, што Аляксандр Трыфанавіч нарадзіўся на Смаленшчыне, не толькі таму, што слых яго фарміраваўся з улікам беларускіх гаворак. Аўтар «Васіля Цёркіна» моцна сябраваў з Аркадзем Куляшовым, шмат зрабіў для выдання амаль адразу пасля Вялікай Айчыннай грунтоўнай анталогіі беларускай паэзіі на рускай мове. Можа быць, нават самай бліскучай беларускай паэтычнай анталогіі. Ды і роля Твардоўскага як галоўнага рэдактара «Нового мира» у творчым лёсе Васіля Быкава неацэнная. У апошнія гады Ц. Ліякумовіч выступіў з грунтоўнымі артыкуламі ў зборніках «Час, час, як вецер...», «Літаратурная спадчына А. Т. Твардоўскага ў змене пакаленняў», «А. Т. Твардоўскі: Даследаванні і матэрыялы: Зборнік навуковых прац. Выпуск 2» і іншых, якія пабачылі свет у Расіі. У мінскім альманаху «Сугучча» літаратуразнаўца надрукаваў артыкул «Люблю Вашы цудоўныя вершы... »: Янка Купала і Міхаіл Ісакоўскі: да гісторыі творчых адносін».



Цімох Ліякумовіч.

І што ўжо асабліва ўражвае: у апошні час Цімох Ліякумовіч выступае як празаік. У ЗША выдадзены дзве кнігі яго апавяданняў — «Белорусские сполохи» і «Прописаны в сердце». А ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» — зборнік апавяданняў і навел «Настальгія» і аповесць «Накануне освобождения».

Такому творчаму плёну можна толькі пазайдросціць. Але ж нельга не сказаць, што гэтаму сапраўды ўсплёску творчай актыўнасці спрыяе і той даўно закладзены фундамент — як у літаратуразнаўчых вышуках, так і ў мастацка-публіцыстычнай рабоце. На памяці многіх чытачоў — яго манаграфіі «Нашчадкі А. С. Пушкіна ў Беларусі» (другое выданне — 1999 год), «Паэзія Янкі Купалы і руская літаратура: Шматграннасць творчых сувязяў» (1996 — частка 1, 1998 — частка 2), напісаныя ім раздзелы ў кнігах «Майстэрства перакладу» (1981), «Гогаль і літаратура народаў Савецкага Саюза» (1986), «Уступаючы ў свет літаратуры» (1998) і іншых выданнях.

Вітаючы доктара філалагічных навук Цімоха Ліякумовіча з 80-годдзем, якое ён адзначае 11 ліпеня 2016 года, застаецца пажадаць моцнага здароўя і ранейшай руплівасці ва ўсіх пачынаннях.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Калыханка для мужа



Ласкавым зваротам «ясачка» апошнім часам карыстаюцца рэдка. Таццяна Цвірка ўжыла яго ў назве сваёй кнігі — «Ясачка долі маёй». Дарэчы, гэта першая яе кніга. Першая, але напісана сталай, вопытнай рукой.

Вытлумачэнне простае: Таццяна Цвірка, перш чым сабраць свае лепшыя творы пад адной вокладкай, шмат друкавалася — ў газетах і часопісах, у калектыўных зборніках. Не кажучы ўжо пра клецкую раённую газету.

Клеччына — яе родная зямля. Нарадзілася ў вёсцы Рассветная. Скончыўшы Нясвіжскае педагагічнае вучылішча і філалагічны факультэт Беларукага дзяржаўнага ўніверсітэта, з Клеччынай звязала і сваё жыццё. Пра што б ні пісала Таццяна Цвірка, у яе творах абавязкова відавочная прысутнасць «малой радзімы», пэўных рэалій як з уласнага жыццяпісу, так і з лёсу блізкіх людзей.

Але гэта не адзіная адметнасць творчасці Т. Цвірка. Паэт, вядома, не толькі той, хто можа больш-менш удала зарыфмаваць радкі. Паэт — гэта аб'ёмны свет, які можа стварыць чалавек. Так ярка, непаўторна стварыць, што ўжо і чытач адчувае ў гэтым свеце сваю прысутнасць. У аснове такога ўспрымання рэчаіснасці — уменне здзіўляцца. Такім уменнем аўтар валодае дасканала.

Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова некалькіх прыкладаў. Скажам, пранікілвыя, цёплыя словы пра хараство вясковага ранку. Як быццам, нічога новага сказаць ужо немагчыма. Але Таццяна Цвірка гаворыць па-свойму:

*Ранак.*
*Адвешваю начную фіранку*
*І не веру вачам сваім:*
*Ці то выпаў майскі снег,*
*Ці то ўсе гаспадыні ў вёсцы*
*Вылілі ранішні сырадой*
*На мой сад?!*

Стаўленне да прыроды ў паэтэсы асаблівае. Яно, у рэшце рэшт, такое, якое і павінна быць у чалавека, які не толькі не адарваўся ад зямлі, але й адчувае пастаянную повязь з ёю. Калі ж нешта нязменна прысутнічае, жыве ў табе, яно выліваецца прачулымі радкамі:

*Замяцеліў вішанькамі май.*
*Сыпле й сыпле, несупынны гэткі.*
*Прыгаршчамі поўнымі збірай*
*У траве пялёсткі, як манеткі.*
*Языком іх вецер зліжа, ах!*
*Не паспее і на смак*
*забыцца —*
*Вішнямі-каралямі ў садах*
*Палахліва ліпень*
*загарыцца.*

Яшчэ адзін верш, невялікі, усяго чатырохрадкоўе: «*Не думай пра нядобрае, заганнае, // Хоць злосць і зайздрасць бокам не міне, // Калі вакол гарыць зямля цюльпанамі, // А тушыць яе яблыневы цвет*».

Таццяна Цвірка застаецца арыгінальнай нават тады, дзе быць такой, здавалася б, вельмі цяжка. Прынамсі, у творах, што ў пэўнай ступені патрапляюць пад вызначэнне альбомных. Часта аўтары іх замыкаюцца на асабістым. Забываюць пра тое, што гэта будуць чытаць і іншыя. Яно ж стане цікавым, прыцягне ўвагу толькі ў тым выпадку, калі сказанае выйдзе за межы прыватнага. Таццяне Цвірка гэта ўдалося. Больш за тое, раскрываючы сваю радаслоўную, яна ўдала выкарыстала форму акраверша, чаго ў падобных выпадках у беларускай паэзіі не было. Атрымаўся «Радавод у вершах». Асобныя творы аўтар прысвяціла сваім бабулям, дзядам, бацькам, брату, свекрыві, свёкру, мужу і нават самой сабе. Па першых літарах, як і патрабуе жанр, прачытваецца прысвячэнне.

Менавіта мужа ў адным з твораў яна называе «ясачкам долі маёй». Верш называецца… «Калыханка». Да слова, калыханка адносіцца да песеннага жанру, а некаторыя вершы Таццяны Цвірка сталі песнямі. Яны прадстаўлены ў кнізе. Нямала вершаў пра каханне. Як пра тое, што пастаянна прыносіць радасць, так і пра каханне, што даўно мінулася, а калі і нагадвае пра сябе, дык толькі выпадковасцю сустрэч, ці згадкамі, якія прыходзяць нечакана.

«Ясачка» ў паэтэсы не толькі зварот да блізкага чалавека. Будзе праўдзівым сказаць, што з гэткім замілаваннем яна ставіцца і да Беларусі. Кніга «Ясачка долі маёй» сведчыць: калі ты па-сапраўднаму любіш Айчыну, дык нельга не апяваць яе. Дарэчы, пра адметнасць творчасці Таццяны Цвірка ў прадмове «Песня, якая раскрыліла крылы…» разважае Людміла Рублеўская.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Музей — для дзяцей!

Каб дні летніх канікул былі яркімі і запамінальнымі, мы едзем разам з дзецьмі на прыроду, адведваем сяброў, набываем білеты ў тэатр... Музей? Гэты варыянт згадваецца далёка не ў першую чаргу. Тым не менш дзверы беларускіх музеяў адчынены для наведвальнікаў любога ўзросту (тут няма абмежаванняў 5+ альбо 8+). І менавіта музей — выдатны сродак, каб зацікавіць нашчадкаў беларускай гісторыяй і культурай, замацаваць атрыманыя ў школе веды, далучыць да інтэлектуальнага асяроддзя...

Калі вам здаецца, што музей — занадта сур'ёзная ўстанова, каб быць мэтай выдатнага сямейнага шпацыру, значыць, вы даўно не зазіралі не толькі ў гэтыя паважаныя ўстановы, але і на іх сайты. Вядома, у беларускіх музеях на працягу бліжэйшых гадоў можа з'явіцца нямала цікавостак для дзяцей, але прывабныя прапановы ёсць і сёння. На тэму «Музей і дзеці» разважае навуковы супрацоўнік аддзела музейных камунікацый **Дар'я АСТРАГАЛОВАЯ.**

**— Спадарыня Дар'я, ці ўсе супрацоўнікі музеяў падрыхтаваныя да нашэсця актыўных і шумных маленькіх наведвальнікаў? Бо не ў кожным узросце дзеці могуць на працягу гадзіны спакойна і ціха аглядаць экспазіцыю...**

— Не ведаю, ці абавязкова дзецям паводзіць сябе ў музеі ціха. Так, шум можа перашкаджаць іншым знаёміцца з выстаўкай. Але мне здаецца, што нават калі дзіцёнак будзе бегаць і тыкаць пальцам у вітрыну — гэта не так і дрэнна. Галоўнае, што ён глядзіць на экспанаты і яму цікава. Але, канечне, наведванне музея трэба з дзіцем папярэдне абмеркаваць.

З іншага боку, не ўсе супрацоўнікі музеяў падрыхтаваны да маленькіх наведвальнікаў. У Беларусі гадоў дзесяцьпятнаццаць таму пачалі распрацоўваць «музейна-педагагічныя заняткі» (нягледзячы на тое, што тэрмін «музейная педагогіка» ў практыцы ўжываецца даволі даўно), і супрацоўнікі музеяў пачалі больш шчыльна займацца з дзіцячай аўдыторыяй.

На жаль, музейная педагогіка нават цяпер разглядаецца як праца з дзецьмі. Але насамрэч гэта праца з любой аўдыторыяй. Чалавек чакае ад музея не толькі экскурсіі — навокал так шмат інтэрактыву, што наведвальнік хоча не проста слухаць тэкст, які ты завучыў і штораз распавядаеш. Трэба, каб былі тэксты для рознай аўдыторыі, каб экскурсавод, магчыма, даў нешта патрымаць у руках. Гэта вельмі ўражвае. Так, аднойчы хлопчык, які наведваў музей са школьнай экскурсіяй, прывёў бацькоў, каб паказаць ім зуб маманта, які мы заўсёды дэманструем школьнікам.

**— Неаднойчы даводзілася назіраць, што маленькіх наведвальнікаў вельмі прывабліваюць адмысловыя дзіцячыя зоны, створаныя ў шэрагу беларускіх музеяў. Ці ва ўсіх музеях гэта ёсць — ці можна сказаць, напрыклад, што літаратурныя музеі разлічаны на дзяцей больш, чым краязнаўчыя?**

— Дзіцячыя куткі, дзіцячыя пакоі патрэбны кожнаму музею. Па-першае, у вялікіх музеях будзе запатрабаваны «пакой адпачынку», дзе бацькі з дзецьмі могуць перадыхнуць падчас агляду экспазіцыі — памаляваць, скласці кубікі, абмеркаваць убачанае. Нават дарослыя стамляюцца ад экскурсіі, тым больш павінна быць прадугледжана магчымасць адпачынку для маленькіх наведвальнікаў. Па-другое, асобны пакой можа быць абсталяваны для правядзення тэматычных заняткаў. Нацыянальнаму гістарычнаму музею вельмі пашанцавала: у пачатку 2001 года быў адкрыты археалагічны дзіцячы пакой, а цяпер адкрыўся другі, прызначаны для абсалютна розных заняткаў і дзяцей рознага ўзросту.

Да таго ж хацелася б, каб у кожнай зале быў стэнд, куток, дзе і дзіцёнак, і дарослы можа зрабіць нешта цікавае «на памяць». Напрыклад, на першым паверсе ў нас стаіць друкарскі станок Францыска Скарыны. Чаму б не паставіць побач пячатку, каб адбіткі скарынавых літар можна было зрабіць на паперы? Гэта інтэрактыў, але зусім просты. У наступнай зале можна змясціць копіі экспанатаў, якія дазваляецца памацаць, патрымаць у руках, разгледзець з усіх бакоў. Так зроблена ў Рыжскім музеі для невідушчых наведвальнікаў. Адрозніць копіі ад арыгінала па знешнім выглядзе амаль немагчыма!

Калі дзіцёнак можа нешта патрымаць у руках, гэта значна больш уражвае, чым звычайны агляд вітрын. У кожнай музейнай зале можна рэалізаваць цікавую ідэю — галоўнае, каб былі зацікаўлены супрацоўнікі, каб меліся фінансавыя магчымасці. Але такія праекты фінансуюцца складана, працсей адкрыць выстаўку. Прычым дзіцячыя праекты не вельмі цікавяць спонсараў.

Таму цікавосткі для дзяцей ёсць не ў кожным музеі. Мне таксама здаецца, што краязнаўчыя музеі не разлічаны на дзіцячую аўдыторыю і не ўдасканальваюць сваю працу... На маленькіх наведвальнікаў насамрэч не заўсёды разлічваюць. Напрыклад, на адным з семінараў, прысвечаных музейнай педагогіцы, дырэктар Мірскага музея сказала, што Мір — гэта музей для дарослых, паколькі школьнікі складаюць толькі пятую частку наведвальнікаў, астатнія — дарослыя, прычым турысты. Але 19% наведвальнікаў таксама хочуць правесці час цікава і карысна. Дарэчы ў Мірскім замку распрацавана некалькі музейна-педагагічных заняткаў, аднак, мне здаецца, у іх сітуацыі лепш працаваў бы інтэрактыў у экспазіцыі.

**— Ці адрозніваецца сітуацыя ў айчынных і замежных музеях?**

— Так, нашы музеі пакуль моцна адстаюць. У амерыканскіх і заходнееўрапейскіх музеях — галерэі Тэйт, Метраполітане, музеі Ван Гога ў Амстэрдаме — шмат цікавостак для наведвальнікаў, шмат праектаў для дзяцей. Самыя, на мой погляд, цікавыя праекты — гэта лабараторыі мастака ці вучонага. Так, у музеі Ван Гога ёсць некалькі адмысловых заняткаў, на якіх падлеткі вывучаюць карціну знутры, пад мікраскопам. Для больш дарослай аўдыторыі ў гэтым музеі кожную пятніцу ладзяцца своеасаблівыя вечарыны, падчас якіх можна не толькі агледзець музей, але і сустрэцца і абмеркаваць убачанае з лепшымі мастацтвазнаўцамі свету. Нельга ў сучасным свеце забывацца на інтэрнэт. Так, галерэя Тэйт мае выдатны сайт для дзяцей, дзе прапануецца шмат цікавых спраў, якімі можна заняцца па-за музеем. Напрыклад, ёсць схемы па вырабе скульптур з паперы, тэсты, гульні, якія можна прайсці дома.

Але, напрыклад, французскі Луўр больш разлічаны на замежных турыстаў, якія едуць паглядзець на лепшыя творы сучаснага мастацтва. Супрацоўнікам цяжка засяроджвацца на маленькіх наведвальніках, на маленькіх групах, бо маштабы зусім іншыя. Таму для дзяцей яны распрацоўваюць спецыяльныя даведнікі. Бацькі з дзецьмі набываюць выданне, каб агледзець экспазіцыю і потым разам паглядзець дома, прыгадаць, дзе яны былі. Гэтаксама робяць Трацякоўка і Эрмітаж. У нас, на жаль, даведнік для дзяцей ёсць толькі ў Нацыянальным мастацкім музеі, і тое па экспазіцыях рускага мастацтва.

**— А як наконт бліжэйшых краін?**

— Куточкі для дзяцей ёсць у большасці музеяў Польшчы, Літвы, Латвіі. У Вільнюсе створаны музей цацак для дзяцей, дзе ёсць шмат інтэрактыўных зон, якія не толькі забаўляюць, але і вучаць. Напрыклад, унутры макета маманта знаходзяцца прадметы, якія распавядаюць пра ледавіковую эпоху. У нас таксама адкрыўся музей цацак, але пакуль ён моцна адстае не толькі ў плане інтэрактыўнасці, але і інфарматыўна. Гістарычныя музеі нашых бліжэйшых суседзяў таксама больш інтэрактыўныя. Напрыклад, у Латвійскім нацыянальным гістарычным музеі ў Рызе ёсць пазлы, гульні, копіі музейных прадметаў, якія можна патрымаць у руках альбо прыкласці да сябе і ўявіць сябе старажытным чалавекам, рыцарам альбо князем. Ва Украіне і Расіі сітуацыя прыкладна такая ж, як у Беларусі. Але ў Расіі на патрэбы грамадства, у тым ліку дзяцей, хутка рэагуюць музеі сучаснага мастацтва, дзе праходзяць адмысловыя заняткі.

**— Для вучняў сярэдняй школы музей — гэта не толькі прывабы ды цікавосткі, але і выдатная магчымасць засвоіць праграму па гісторыі, літаратуры, геаграфіі, сусветнай мастацкай культуры...**

— Гэта сапраўды так. Напрыклад, пра палку-капалку альбо скрабло пішуць у падручніках, мы ўяўляем іх абстрактна — і толькі ў музеі можна ўбачыць, як рэальна дзейнічалі гэтыя прылады працы. Сталая экспазіцыя нашага музея знаёміць з гісторыяй Беларусі ад глыбокай старажытнасці да канца XVIII ст. Мы распавядаем пра мінулае на лепшых прыкладах па розных тэмах. Напрыклад, культура — гэта сармацкі партрэт, разьба па дрэве, слуцкія паясы, посуд...

Дзецям, у якіх з'явіўся ў школе новы прадмет — мастацтва — пажадана наведваць Нацыянальны мастацкі музей. Дзе яшчэ распавядаюць пра колер, святло, перспектыву?.. Але можа выявіцца, што музеі недастаткова падрыхтаваныя для сустрэчы са школьнікамі. Напрыклад, у мастацкім музеі пакуль няма праграмы, якая б дапамагала дзецям на працягу года засвойваць прадмет «мастацтва», зараз яна знаходзіцца на стадыі распрацоўкі.

Выдатная рэч — абанемент, па якім школьнікі маглі б перыядычна наведваць музей і знаёміцца з вывучаным на прыкладах. Тут мы чакаем запытаў ад школ, але добра разумеем, што настаўнікам складана рэгулярна вазіць дзяцей у музей здалёк.

**— Прыгадваю вучобу ў мінскай гімназіі: за дзевяць гадоў мы ніводнага разу не наведвалі Нацыянальны гістарычны музей.**

— Мы з аднакласнікамі таксама ніводнага разу тут не былі, затое ў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ездзілі штогод... Шмат залежыць ад настаўнікаў. Ёсць настаўніцы, якія прывозяць дзяцей рэгулярна — так растуць музейныя дзеці. Потым яны будуць да нас абавязкова прыходзіць, бо ў музеі ім было цікава і добра. Некаторыя настаўніцы забягаюць і просяць паказаць экспазіцыю за дваццаць хвілін, бо ўжо стаміліся да нас ехаць.

**— Праблема транспарту, вядома, істотная. Але яе можна было б вырашыць, калі б музей меў некалькі сваіх аўтобусаў для школьных груп. Па дарозе можна правесці экскурсію і такім чынам зацікавіць дзяцей мінулым...**

— У ЗША ёсць музейныя туры для школьнікаў, якія абслугоўваюць адмысловыя жоўтыя аўтобусікі. У 2010 — 2011 гадах было вырашана, што на гэта вылучаецца зашмат сродкаў. Высветлілася, што нават праз тры тыдні дзеці памятаюць большасць інфармацыі, пачутай падчас экскурсіі. Да таго ж узровень талерантнасці і гістарычнай эмпатыі, здольнасць разважаць і рабіць лагічныя высновы ў наведвальнікаў музеяў вышэйшыя, чым у іншых школьнікаў.

**— У Нацыянальным гістарычным музеі шмат прывабных прапаноў для дзяцей: лекцыі, музейныя заняткі, адмысловы сайт... Наколькі запатрабаваныя гэтыя адукацыйныя праекты?**

— Цікавасць ёсць, на выхадных у нас заўсёды адбываецца некалькі заняткаў, але... За адзін каляндарны год мы правялі 120 музейных заняткаў пры тым, што магчымасці музея значна большыя. Можна за адзін дзень правесці 6-8 заняткаў. Таму мы чакаем новых маленькіх сяброў. Чаму няма наведвальнікаў? Па статыстыцы, дзеці, якія наведалі музей з бацькамі, вяртаюцца туды часцей, чым дзеці, якія прыехалі са школай. У нашым музеі для дзяцей «з бацькамі» праведзена 35 працэнтаў агульнай колькасці заняткаў — і гэта зусім мала. Магчыма, праблема ў тым, што дарослыя цікавяцца пераважна «папсовымі» праектамі. Напрыклад, на выстаўку 3D-карцін прыходзіць значна больш людзей, чым на гістарычную.

Да таго ж існуе стэрэатып, што музей — гэта сумна. Бацькі часта распавядаюць: калі мы ўпершыню ішлі да вас з дзецьмі, то непакоіліся, што яны праз некалькі хвілін будуць прасіцца дадому. Але так не адбываецца — дзеці з задавальненнем праводзяць на музейным занятку паўтары гадзіны. Няма дзяцей, якіх немагчыма зацікавіць, ёсць, напрыклад, гіперактыўныя дзеці, якія не могуць уседзець на месцы. Але яны хутка разумеюць, дзе знаходзяцца, пачынаюць слухаць, засяроджваюцца — і працаваць можна абсалютна з кожным! Ужо ў пяць гадоў мы можам узяць дзіця на музейны занятак. І калі маленькі наведвальнік зразумее, што музей — гэта цікава, гэта новая інфармацыя, якую можна атрымаць толькі тут, а не з інтэрнэту, то будзе прыходзіць яшчэ і яшчэ!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Дар'я Астрагаловая вядзе музейны занятак у Нацыянальным гістарычным музеі.*

# ЛЕТНІ АРТ-МАРАФОН

**Другі месяц лета не перастае здзіўляць мастацкай разнастайнасцю. Амаль кожны дзень у галерэях і музеях з'яўляюцца новыя экспазіцыі. Пра некаторыя з іх карэспандэнты «ЛіМа» пісалі ў мінулым нумары, а пра самыя новыя вы можаце даведацца з нашага арт-агляду.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1 «Сфера чалавечага» — менавіта так называецца выстаўка беларускай мастачкі Людмілы Кальмаевай, прымеркаваная да 70-гадовага юбілею творцы. Аўтарка, нягледзячы на сваё дваццацігадовае пражыванне ў Галандыі, пазіцыянуе сябе беларускай. Яна захапляецца беларускай гісторыяй і айчыннымі дзеячамі культуры, партрэты якіх стварае дастаткова часта. Сённяшняя яе выстаўка жывапісу і графікі складаецца з 40 мастацкіх твораў. Галоўная канцэпцыя праекта — адзначыць чалавека і яго энергетыку як жыццесцвяральную сілу. Партрэты людзей — душэўнае люстра настрою, хвалявання, цярпення.



*«Казкі на паліцы», 2010 г.*

Вельмі прыемна, разглядаючы творы экспазіцыі, наткнуцца на партрэт Максіма Багдановіча, такога маладога і натхнёнага. Цікавыя і партрэты егіпецкіх жанчын: яны ілюстраваны з нована для гледача боку — такія ж халодныя па тэмпераменце, але больш простыя па рысах твару. Таксама ў межах экспазіцыі прадстаўлены дзве работы Людмілы Кальмаевай, якія дэманструюць загадкавы свет мастачкі і прыналежнасць адначасова да беларускай і галандскай культуры.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

2 Практыка выхаду твораў мастацтва на вуліцу, іх інтэграцыя ў гарадскую прастору апошнім часам набывае ў Беларусі, асабліва ў сталіцы, усё большую папулярнасць. Новы ўдалы прыклад — «Свабодны музей: гарадскія легенды», што размясціўся на плошчы Свабоды, каля царквы. Партрэты легендарных мінчан, што пакінулі знакавы след у нашай гісторыі, літаральна выцягнутыя на паветра з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея (а там палотнаў — некалькі дзясяткаў тысяч!). Вядома, гэта копіі, раздрукаваныя на стэндах, якія ўтвараюць міні-галерэю пад адкрытым небам. Праект яшчэ і адукацыйны, для тых, хто не вельмі добра ведае беларускіх мастакоў, літаратараў, кампазітараў, артыстаў і навукоўцаў. Ці ўзгадалі б вы, напрыклад, Віктара Угрумава, заслужанага майстра спорту СССР, знакамітага конніка? Дырыжор Рыгор Шырма і кампазітар Мікалай Аладаў — на слыху. Ці можна так сказаць пра беларускага селекцыянера Пятра Альсміка?

Усяго на вернісажы 20 карцін. Хацелася б больш, бо экспазіцыя выглядае даволі сціпла. Але ініцыятыва знакавая. Каб не загразлі ў хаатычным схопліванні інфармацыі з сацсетак, ведалі сваё мінулае, без якога б не было будучыні. Так, выстаўка патрыятычная, яна стала своеасаблівым унёскам у папулярызацыю гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Акцыя павінна мець працяг, бо гэта не проста партрэты тых, хто зрабіў нашу навуку ці мастацтва, а творы ад беларускіх мастакоў, таксама знакавых: творчасць праз творчасць.

Генеральным партнёрам праекта выступіла ААТ «Лідскае піва» пры падтрымцы камунікацыйнага агенцтва «Культпрасвет» сумесна з музеем і Мінгарвыканкамам. Як бачна, Мінск адкрыты для эксперыментаў і новых ініцыятыў, фарматаў, творчых лакацый. Музей свабодны не толькі таму, што апынуўся на аднайменнай плошчы. Ніякіх межаў, арганізатары гатовыя да любых ідэй і прапаноў па ўпрыгожванні горада.



## МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА КІНО

3 Адной з самых рэйтынгавых выставак, якія адкрыліся напачатку ліпеня, стаў цікавы мастацкі праект «Старыя героі — новы свет. Героі беларускіх казак, міфаў і легенд». У выставачнай прасторы музея апынаешся ў кампаніі дзіўных фальклорных персанажаў — Ёўніка, Жыцеця, Жэўжыка, Дамавіка, Злыдней, Шатаноў, Лазавіка і Дзедкі.



Візуальныя вобразы герояў былі заснаваны на работах сучаснага беларускага графіка Валерыя Славука. А створаны скульптурныя кампазіцыі маладым аўтарам Антонам Шпіцам, які спрабуе інтэрпрэтаваць вобразы фальклорных герояў, сінтэзуючы традыцыі акадэмічнай школы і сучасныя мастацкія тэндэнцыі.

Выстаўка атрымалася ўніверсальная, таму тут будзе цікава прадстаўнікам абсалютна любой узроставай аўдыторыі. Дарослыя змогуць ацаніць, наколькі правільна скульптар адчуў сваіх персанажаў, а дзеткі даведаюцца пра цікавых і наравістых істот у беларускай міфалогіі. Задумвалася ж экспазіцыя з мэтай адарваць чалавека ад успрымання спецэфектаў, камп'ютарных магчымасцей, якімі сёння прынята захапляцца, і паказаць актуальнасць і непаўторнасць народнай культуры ў межах сучаснасці.

Пакуль выстаўка будзе экспанавацца ў Мінску, а пасля ліпеня экспазіцыю прадставяць у розных рэгіёнах краіны.

## АРТ-ГАСЦЁЎНЯ «ВЫСОКАЕ МЕСТА»

4 Сваю асабістую гісторыю на мове яркай палітры і экспрэсіўных футурыстычных малюнкаў у духу кубізму вырашыла распавесці Наталля Ярмолава, мастачка з Віцебска, на выстаўцы жывапісу і графікі «Малюю аўтабіяграфію». У аснове яе творчасці — лагічны сінтэз розных плыняў. Адчуваецца ўласны почырк. Насычанасць колераў зыходзіць з галоўнай функцыі твораў — эстэтычнай. Карціны Наталлі Ярмолавай закліканы абуджаць станоўчыя эмоцыі, прымушаць людзей радавацца, але і разважаць — пра зменлівасць свету, чалавечае пакліканне, заганы і дабрыню… Вобразы, фігуры як бы разбягаюцца і збіраюцца зноў, ствараючы на працягу нейкіх хвілін адразу некалькі малюнкаў. Падобна да мазаікі ці каруселі. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 40 работ, якія выстаўляліся не толькі ў Беларусі, але і на міжнародных мастацкіх конкурсах і вернісажах.



## ГАЛЕРЭЯ «DK»

5 Чым гледача прываблівае мастацтва авангарду? Напэўна, дыялагічнасцю, магчымасцю разбіраць на кавалачкі і сэнсы сюжэтныя матывы, шукаць частку сябе ў іх. Прадстаўнік беларускага авангарду, мастак Аляксандр Забаўчык запрашае людзей, неабыякавых да працэсаў асэнсавання творчасці, паразважаць над новым выставачным праектам «AZ – 58».

Будучы мысляром, кожную работу мастак насычае пэўным філасофскім кантэкстам, надаючы тэму для разваг назвай твора. Напрыклад, карціна «Метро». Глядзіш на твор і адчуваеш, што мастаку важная не сувязь чалавека з падземным транспартам, а ўзаемадзеянне цягніка і тунэля: для яго цягнік — жывая душа, які, трапляючы ў цемру, глыбока хавае думкі кожнага чалавека. Бо мы кожны дзень ездзім у метро, разважаем над сваімі штодзённымі праблемамі, чытаем важныя кнігі і плануем справы на наступны дзень.



*«Пракуратар», 2009 г.*

Аляксандр Забаўчык — прыцягальны мастак. Чапляе чалавека, здзіўляе самымі звычайнымі сюжэтнымі элементамі абстрактных кампазіцый. Мастак разлічвае на тое, што тэмы, укладзеныя ім у работы, застануцца ва ўражаннях і адгукнуцца думкамі гледачоў.

**Вікторыя АСКЕРА, Марыя ВОЙЦІК**

# На хвалі разумення,

## або Тэатр новых магчымасцей

**Мары павінны спраўджвацца. Памятаеце, як у фільме «Дастукацца да нябёсаў»? «Мы накіроўваемся да мора, ты там ніколі не быў…». Важна да канца ісці да сваёй мэты. Так яны адкрылі інклюзіўны тэатр «і», адзіны ў Беларусі, асаблівы, сямейны — і падарылі шчасце не аднаму, а некалькім, — дзецям з абмежаванымі магчымасцямі. Разуменне інклюзіі ў нашым грамадстве яшчэ не дасягнула неабходных маштабаў. Што гэта такое? Раўнапраўнае стаўленне да людзей, крыху не такіх, як многія, уключэнне іх у актыўнае грамадскае жыццё. Яны могуць быць акцёрамі, спевакамі, танцорамі, не горшымі за іншых. Таццяна Якаўлева, старшыня савета міжнароднай дабрачыннай грамадскай арганізацыі «Дзеці. Аўтызм. Бацькі», якая стала адным з каардынатараў задумы, распавяла пра нядаўнюю прэм'еру мюзікла «Флейта-чарадзейка» ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, пра тое, як сціраюцца межы, а мастацтва лечыць.**



Сцэна са спектакля «Флейта-чарадзейка».

**— Таццяна, як з'явілася ідэя стварыць свайго роду «лабараторыю мастацтва», дзе дзеці могуць вольна лячыцца творчасцю? З чаго ўсё пачыналася?**

— Такіх прыкладаў тэатра не толькі ў Беларусі ніколі не было, але і рэдка яшчэ дзе ёсць за мяжой. Гэта магчымасць гаварыць пра складаную тэму аўтызму проста і даступна, зараджаць у сэрцах людзей разуменне праблемы. Тым не менш сама ідэя тэатра для дзяцей з аўтызмам або іншымі асаблівасцямі здароўя ні для Беларусі, ні для іншых краін не новая. Але мы пайшлі далей, пашырыўшы разуменне «асаблівага тэатра». Ён не стаў ізаляваным, спецыяльным, а, наадварот, — атрымаўся звыклым, традыцыйным, раўнапраўным, дзе ёсць месца для ўсіх дзяцей, розных. Лепшую школу жыцця, з больш інтэнсіўным рэжымам сацыялізацыі і ўзаемнага ўзбагачэння творчасцю, складана прыдумаць. Падтрымалі ў яго стварэнні нас, арганізацыю «Дзеці. Аўтызм. Бацькі», як ні дзіўна, людзі, якія раней з тэмай аўтызму і дзіцячай інваліднасці амаль не сутыкаліся. Яны проста прафесіяналы сваёй справы, якія прыйшлі да нас перад пачаткам працы над першым спектаклем. Ідэйны саюз адбыўся дзякуючы незвычайнаму чалавеку, артыстцы балета і рэжысёру Ірыне Пушкаровай, цяпер кіраўніку нашага тэатра. З ёй мы ішлі да ўвасаблення задуманага два гады, праз масу працы. Філасофія дабра была падхопленая з першых дзён стасункаў. Таму, напэўна, усё і атрымалася на адным дыханні.

**— Як праяўляецца тэрапія творчасцю? Наколькі яна дзейсная?**

— Мы дзейнічаем па прынцыпе «ніякіх страхаў і толькі ўзаемная карысць». У гэтым і ёсць фокус інклюзіі. Заняткі, рэпетыцыі заўсёды праходзяць у вельмі творчай абстаноўцы. Цудоўны эфект ад арт-тэрапіі не прымушае сябе чакаць. За некалькі месяцаў працы мы ўжо амаль прывыклі не здзіўляцца поспехам і цалкам натуральным паказчыкам дзяцей з аўтызмам. Калектыў ад рэжысёра да мастакоў іх выдатна прыняў. Стваралі ўсе разам, дружна. Гэта, вядома, не значыць, што мы ўжо ўсяго дасягнулі, шлях будзе доўгім і цікавым, вучыцца трэба яшчэ шмат чаму. Можа быць, кагосьці натхніць наша ініцыятыва, і стварэннем аднаго інклюзіўнага тэатра справа не абмяжуецца.

**— Чаму дэбютным спектаклем стаў мюзікл «Флейта-чарадзейка»?**

— Рашэнне паставіць менавіта гэты мюзікл было прынята кіраўніком тэатра Ірынай Пушкаровай. Цудоўныя лібрэта і музыка, дарэчы, ад кампазітараў Марыі Дзямянковай і Ганны Казловай. Ідэя пераасэнсавання свету, свайго атачэння, пазітыўнага перараджэння, пераходу ад дзіцячых мараў, гульняў, умоўных цяжкасцей да свята і дабрыні легла ў аснову пастаноўкі. Якія ролі выконвалі маленькія і юныя акцёры? Птушкі, звяры, малыя ў чаканні цуду гукаюць вясну, сімвал светлых сіл, танчаць, разгадваюць загадкі...

*Праблемай, якая патрабуе ўвагі, застаецца становішча сям'і, якая выхоўвае дзіця з аўтызмам. Мы хочам, каб і ў іх была магчымасць прыходзіць да нас на спектаклі, паверыць ва ўласныя сілы.*

У тым ліку і агульначалавечага шчасця. Кульмінацыяй становіцца выхад феі дабра і маленькага сонечнага промня з песняй «О соле міа», перакладзенай на беларускую мову. Завяршыўся спектакль на самай пазітыўнай ноце — усеагульным і вельмі радасным хорам-гімнам.

**— Раскажыце пра падрыхтоўку да спектакля. Ці хутка дзеці ўключаліся ў працу?**

— Рэпетыцыі праходзілі ў вельмі сціслыя тэрміны, мы стараліся прымеркаваць прэм'еру да Міжнароднага дня абароны дзяцей. Так усё і атрымалася — дзякуючы адданай працы кожнага ў камандзе. Не сказала б, што дзеці з аўтызмам з нейкімі асаблівымі цяжкасцямі ўключаліся ў рэпетыцыйны працэс, адбылося гэта з першых жа дзён. Але поспех шмат у чым залежаў ад прафесійнай падтрымкі спецыялістаў-псіхолагаў, паводніцкіх аналітыкаў, дэфектолагаў, цьютараў. Сцэна апынулася добрым альтэрнатыўным сродкам у наладжванні камунікацыі, толькі ва ўсіх гэта атрымлівалася па-свойму і ў свой час. У кагосьці дасягненнем было прачытаць верш, а ў кагосьці проста выйсці на сцэну.

**— Якія ўражанні ў саміх юных артыстаў?**

— Шчырая зацікаўленасць. Рэпетыцыі былі напоўнены неверагоднай рабочай энергіяй. Нікім не была заўважаная нават адна нечаканая замена. У стане хвалявання ў дзень прэм'еры акцёр Кастусь з аўтызмам адыграў не толькі сваю ролю, але і сяброўкі, якая часова разгубілася. Падчас прэм'еры адчувалася шалёная падтрымка залы, усе месцы былі запоўнены. Вельмі прыемна, бо толькі малая доля гледачоў мела нейкае дачыненне да аўтызму... Людзі прыйшлі на звычайны дзіцячы спектакль, але ўсе квіткі былі раскуплены загадзя, а потым мы атрымалі шмат прыемных водгукаў.

Выйшаўшы на сцэну, дзеці пачуваліся вялікімі героямі. Менавіта сцэна стала месцам іх новага свету. Песні, танцы, вершы... Для іх гэта быў вялізны і моцны прарыў у свет новых магчымасцей. Усе вельмі перажывалі адзін за аднаго. На генеральным прагоне пару хлопцаў з аўтызмам вельмі расхваляваліся, мы ўжо занепакоіліся. А на сцэне ўсё выканалі бездакорна! Як тут не ганарыцца?

**— Якія прафесійныя артысты працавалі з дзецьмі? Якіх правіл паводзін прытрымліваліся?**

— Нашай задачай было стварэнне сапраўднага спектакля, таму і каманда атрымалася сур'ёзнай. Рэжысёр-пастаноўшчык — Ігар Сідорчык, сцэнарыст — Вера Жыбуль. Веніямін Маршак у амплуа дэкаратара і Таццяна Лісавенка, Ян Нядвецкі як мастакі па касцюмах. Працэс узаемадзеяння складваўся неяк зусім натуральна. Дарослыя ведалі, у каго якія асаблівасці, патрэбы, схільнасці, таленты. Усе былі гатовыя, таму на рэпетыцыйнай сцэне заўсёды адчуваліся кантроль прафесіяналаў і лідарства дзяцей з досведам. Без дапамогі педагогаў было б немагчыма, прынамсі, на першых этапах, але з часам, спадзяюся, цьютарства павінна стаць менш інтэнсіўным.

*Лепшую школу жыцця, з больш інтэнсіўным рэжымам сацыялізацыі і ўзаемнага ўзбагачэння творчасцю, складана прыдумаць.*

**— Ці думаеце аб працягу ініцыятывы? Можа быць, тэатр трэба пазнаёміць з яшчэ большай аудыторыяй?**

— Нашыя гастролі па абласных цэнтрах Беларусі ўжо запланаваныя. Хочам выехаць і за мяжу — не толькі паказаць свае здольнасці, але і павучыцца ў іншых, адчуць сябе сапраўднымі артыстамі. Новы спектакль абавязкова будзе, сцэнарый ужо напісаны. Але пакуль гэта наш сакрэт, які раскрыем да красавіка наступнага года.

**— Ці праўда, што тэатр ставіць сваёй мэтай яшчэ і змяніць стаўленне да аўтызму ў Беларусі? Наколькі ў нас людзі разумеюць гэтую праблему?**

— Трэба працаваць над інфармаваннем, развянчаннем страхаў і стэрэатыпаў пра тое, што аўтызм — гэта глыбокая інваліднасць, а дзеці, што ім хварэюць, не могуць быць карыснымі грамадству. Мы з поўнай адказнасцю кажам і паказваем, што гэта — абсалютны міф. Яны ўсё могуць! Праблемай, якая патрабуе ўвагі, застаецца становішча сям'і, якая выхоўвае дзіця з аўтызмам. Мы хочам, каб і ў іх была магчымасць прыходзіць да нас на спектаклі, паверыць ва ўласныя сілы. Праект тэатра, як многія з праектаў па аўтызме ў Беларусі, быў зроблены бацькамі такіх дзяцей. Мы хочам быць прыкладам і надзеяй на змяненне сітуацыі, пашырэнне кола ініцыятыўных, бо адначасова нас чуе і бачыць мноства іншых людзей, структур, арганізацый.

**— Хто падтрымаў вашу ідэю? Можа, прыцягваліся замежныя артысты?**

— З кампаніяй *Velcom* у нас ужо не першы праект, ёсць перспектыва сумесных спраў у плане сацыяльных змен. Праект тэатра быў неверагодна цёпла прыняты прадстаўнікамі культуры. Нас падтрымалі Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, Белдзяржфілармонія, Беларускі дзяржаўны цырк, Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы. Кожны унёс свой уклад у агульную справу, за што мы вельмі ўдзячныя. Адгукнуліся на падтрымку некаторыя іншыя кампаніі, мецэнаты. А замежныя артысты гатовыя да ўдзелу ў будучых спектаклях, ёсць папярэднія дамоўленасці. Першая ж пастаноўка была зроблена выключна беларускімі сіламі.

**— У дзяцей з аўтызмам ёсць здольнасці, і іх трэба развіваць, падштурхоўваць. Тэатр быў створаны на базе студыі Ірыны Пушкаровай. Якой яшчэ творчасці займаюцца дзеці, што не былі занятыя ў спектаклі?**

— Умовы роўныя для ўсіх, у наступных спектаклях будуць удзельнічаць новыя артысты, тыя, хто не паспеў гэтым разам. Развіваць і заахвочваць трэба не толькі дзяцей з аўтызмам. Усім малым неабходна ўвага. Розніца паміж імі толькі ў тым, што дзеці з аўтызмам праходзяць дадатковы псіхолага-педагагічны карэкцыйны курс. У плане творчасці мы пакідаем права прыродзе кожнага праявіцца самой як мага ярчэй праз любоў і спрыяльную, пазітыўную абстаноўку. І час ужо паказвае, што гэта практыка вельмі прадуктыўная.

**Марыя ВОЙЦІК**



Заканчэнне. Пачатак у № 18, 22.

# Мае героі

## Вельмі асабістыя нататкі дакументаліста

**Вольга ДАШУК, рэжысёр дакументальнага кіно, лаўрэат міжнародных кінафестываляў**

Я адчуваю, так ці інакш, усе мае героі маюць на мяне ўплыў. Калі сустрэлася з маім маленькім мастаком Віктарам Залацілiным першы раз, спадабаўся ягоны прыемны твар і натуральныя манеры, і вырашыла зрабіць нейкі эксперыментальны па форме фільм. Віктар быў мастаком, жывапіс шмат значыў для яго, і захацелася гэта нейкім чынам выкарыстаць. Выгляд Віктара нагадаў вядомую карціну Веласкеса, партрэт карліка. У Віктаравых разумных вачах быў падобны чароўны позірк. Калі пачалі здымаць, я адчула, як хутка развіваецца наша сяброўства, і фармальны фільм пачаў імкліва знікаць.

Аднойчы я здымала Віктара каля адной з ягоных карцін. Ён меўся апісаць сам працэс — тую глыбокую ўнутраную трансфармацыю, што адбываецца з ім кожны раз, як браўся за пэндзаль. Спачатку размова чамусьці не ішла. Віктар быў напружаны і гаварыў надзвычай змушана. Я ніяк не магла зразумець, чаму. Адчувала, што нешта не так, як звычайна. А тады ён мне сказаў. Я, якая ўжо столькі разоў здымала інтэрв'ю з рознымі людзьмі, а не магла ўсвядоміць такую простую рэч. Я стаяла, а Віктар сядзеў ля карціны на падлозе. Я была намнога вышэй за яго, мы не былі роўныя… Калі нарэшце сама села на падлогу і мы аказаліся на адным узроўні, усё магічным чынам змянілася. Раптам пытанні жывапісу засталіся ўбаку, і Віктар загаварыў эмацыянальна і адкрыта — пра адзіноту, пра свайго сабаку, што быў ягоным адзіным сябрам і таварышам на свеце. Віктар таксама расказаў, што ён перажыў, як памёр ягоны папярэдні сабака. Я была вельмі ўзрушаная, перастала задаваць пытанні, толькі слухала, плакала бязгучна, але не адводзіла вачэй ад твару Віктара, бо, каб зрабіла гэта, сапсавала б такую сцэну…

Пасля гэтага эпізода ўжо не было сумненняў, што фільм будзе вельмі традыцыйны па форме. Неверагодна шчыры і эмацыянальны маналог Віктара пераўзыходзіў па значнасці ўсе фармальныя схемы. Уключыла яго ў фільм амаль такім, як знялі, з мінімальным мантажом. Часта ўспамінаю гэтую здымку і гэта асаблівае пачуццё чалавечай блізкасці, калі адчуваеш, што знікаюць усялякія бар'еры паміж табой і іншым, нават не кроўным табе, чалавекам. Віктар таксама быў здзіўлены сабой. Прызнаўся, што пра гэтыя інтымныя рэчы ні з кім не размаўляў.



Кадр з фільма «Не адзін».

Такія ўнікальныя моманты застаюцца ў памяці рэжысёра. Часам у горшыя перыяды яны робяць прафесійнае жыццё цярпімым і крыху прымiраюць з няўдачамі.

Бывае, героі пашыраюць твой чалавечы досвед у тых сферах, дзе кожны лепей бы застаўся недасведчаным. Героем майго фільма «Ноч кароткая» быў Генадзь Мураўёў, адметны анкамарфолаг. Анкамарфалогія была ягонай прафесіяй і сапраўднай страсцю больш чым пяцьдзясят год. Калі я ўпершыню праз мікраскоп пабачыла ракавую клетку, здзівілася, якая яна прыгожая. Мікраскоп быў асноўным інструментам Мураўёва. Ён разглядаў рак як свайго асабістага ворага, магутнага, але ўсё ж датыкальнага. У медыцынскім свеце Мураўёў быў легендарнай фігурай. Ён часта мог паглядзець на клеткі ў мікраскоп і паставіць правільны дыягназ. Бывала, з гэтым дыягназам іншыя дактары адразу не згаджаліся, але потым, як правіла, аказвалася, што Мураўёў абсалютна меў рацыю. Ён не проста быў спрактыкаваным доктарам, ён здаваўся народжаным для гэтай прафесіі. Калі-небудзь ён казаў людзям: «Жадаю вам ніколі са мной не знаёміцца», паколькі такі кваліфікаваны спецыяліст, як ён, займаўся найчасцей самымі цяжкімі і безнадзейнымі выпадкамі.

Мяне цікавіла, як Мураўёў можа працаваць у гэткай песімістычнай галіне так доўга і не сысці ў татальную дэпрэсію. А ён вельмі любіў прыроду, увесь вольны час бавіў на паветры і ахвотна ездзіў на паляванне. І я паехала з ім і мусіла правесці палову халоднай ночы пад зоркамі на высокай драўлянай платформе ў полі, прычым абсалютна нерухома і бязгучна, каб не спудзіць дзічок. Ганарылася, што справілася і заслужыла павагу Мураўёва, а вось мой апаратар быў раскрытыкаваны за ціхія ўздыхі і нецярплівае шамаценне курткай. Дзікі гэтай ноччу так і не выйшлі (з-за апаратара, думаю).

Мураўёў быў першы, хто памёр, і з ім я даведалася, што гэта такое, калі памірае герой. Аказалася, так балюча. На паніхідзе ў мяне было дзіўнае пачуццё сувязі паміж намі. Я ўспамінала нейкія рэчы пра яго, што нават ягоныя сябры і калегі, якія былі побач з ім доўгія гады, не ведалі. Пасля заканчэння паніхіды зрабіла глупства, не магла стрымацца. Набрала нумар ягонага мабільнага. Тое, што бачыла Мураёўва мёртвым, не дапамагло ўсвядоміць, што яго насамрэч ужо няма. Тэлефон сказаў: «Абанент недаступны».

Гэтай ноччу ўбачыла Мураўёва ў сне. Я сядзела каля ягонай адчыненай труны. Ён ляжаў. Раптам адкрыў вочы і ўважліва паглядзеў на мяне. Але гэты позірк зусім не спужаў. Наадварот, то была камунікацыя, і гэта ўзрадвала.




З фільма «Ноч кароткая».

Пазней такі цяжкі досвед паўтараўся неаднойчы. Я страціла некалькіх герояў, у тым ліку самага першага, Леаніда Левіна. Ягоная грамадзянская паніхіда была арганізаваная ў вялікай канцэртнай зале. Я ішла туды з цотнай колькасцю гвяздзікоў, загорнутых у газетку. На скрыжаванні, якраз насупраць будынка канцэртнай залы, я спынілася на чырвонае святло. Сумны настрой ужо агарнуў, таму спярша не звярнула ўвагу на вялікую шыкоўную машыну з зацемненымі вокнамі, што затармазіла якраз побач, таксама на чырвоны сігнал. Шкло ў машыне апусцілася перад маім тварам, з акна высунуўся франтаваты мужчына гадоў пяцідзесяці і ігрыва звярнуўся: «Прывітанне, прыгажуня, а каму гэта вашы кветачкі?» Ён яўна хацеў кароткага фрывольнага дыялогу… Я радасна ўсміхнулася, бо ўжо прадчувала, як ён зараз здзівіцца, і з гатоўнасцю адказала: «На пахаванне іду!» Мяне пазабавіў ягоны раптоўны шок. Какетлівы тон той страціў імгненна і спуджана перахрысціўся па-каталіцку. Тады сказаў так сур'ёзна: «Мае спачуванні! Гэта нехта блізкі вам?» — «Так, — я кіўнула, — мой герой». Машына кранулася з месца на зялёнае святло, і апошняе, што мне запомнілася, як яна ад'язджала: шырока адкрыты рот і збянтэжаныя вочы ахвотнага да размоў пасажыра, у якіх застыла нямое пытанне… Ён яўна не зразумеў, кім я прыходзілася нябожчыку…

Развітальная цырымонія, поўная гора і плачу, таксама мела для мяне сюрпрыз. У канцы ўсе людзі выйшлі на вялікі адкрыты ганак, каб прычакаць вынасу. Я стаяла і чакала разам з усімі. Стаялі на ветры і холадзе доўга. Левін быў вельмі заслужаным у Беларусі чалавекам, і пахаванне арганізавалі на дзяржаўным узроўні. Усё было вельмі ўрачыста. З'явіліся салдаты ў парадной форме з белымі пальчаткамі. Натоўп людзей выстраіўся па баках ганка з незлічонымі вянкамі і букетамі. Раптам усе заварушыліся, зайграў аркестр. У дзвярах паказаўся чалавек, які нёс фота Левіна. Я зірнула на фатаграфію і адчула, як перахапіла горла. Леанід Мендзелевіч быў на ім у той самай кашулі, што не раз бачыла ў яго на здымках. І ён усміхаўся сваёй гарэзлівай мілай усмешкай, якая яму пасавала і рабіла такім маладым і прывабным. Вільгаць засцілала вочы, і ў гэты момант я пачула гучны шэпт аднага старога, што стаяў побач: «Ну і ну, які размах! Вось бы Лёня пабачыў, які б ён быў шчаслівы!». Я не магла не засмяяцца праз слёзы і падумала, што гэта, пэўна, сам Левін, з ягоным непераўзыдзеным пачуццём гумару, паслаў мне гэтыя два моманты, каб трохі падбадзёрыць…

Часам уяўляю, як усе мае героі збіраюцца разам, у адным месцы. Гэта ўжо цэлая маленькая зала. Думка, што яны ў мяне ёсць, вельмі цешыць. Я адчуваю, што нейкім чынам частка іх ёсць ува мне. Захаваю яе назаўсёды.

*Імпрэза*

# Амбітнасць апантаных

## Каптаруны-вуд: фабрыка мар на беларускі лад

Не чакаць міласці ніадкуль, а рабіць яе для сябе і іншых самім — вось шлях, якім пайшлі ўдзельнікі праекта «КінаЛетнік-Хранатопь». Кіно, якое яны вельмі любяць і пра якое мараць, сабрала апантаных у вёсцы Каптаруны Пастаўскага раёна.

Увесь тыдзень, з 1 па 8 ліпеня, тут уцягваліся ў працэс стварэння кіно тыя, хто гатовы быў цярпець нястачы гарадскіх выгод, жыць у намётах — усё дзеля таго, каб толькі паспрабаваць сябе ў якасці рэжысёра ці сцэнарыста, прадзюсара ці адміністратара — прафесій шмат, можна было «выбраць» сваю, і тое ўмоўна. Вучыцца рабіць кіно — таксама ўмоўна. Але ці не з мар і спроб пачынаецца сур'ёзнае захапленне, якое можа прывесці да нейкіх рэальных спраў, як гэтая: рабіць кіно насуперак абставінам, тым больш што сучасныя тэхналогіі адкрываюць шлях для аматараў і дазваляюць ім творча расці.

Каб захапіць (ці навучыць?), прыцягваліся тыя, хто ўжо паспрабаваў рабіць кіно сам ці ведае пра гэта. Нават размовы пра кіно могуць быць прадуктыўнымі — з іх нараджаюцца ідэі. Але ў ідэй павінен быць шанц рэалізавацца. Як яго не ўпусціць? На гэтае ды іншыя пытанні павінна была даць адказы серыя сустрэч і майстар-класаў з беларускімі і замежнымі знаўцамі сучаснага мастацтва і кіно. Адзін з арганізатараў праекта «Хранатопь», рэжысёр Андрэй Кудзіненка, лічыць, што кіно, фіксуючы рэчаіснасць, дазваляе ўбачыць і ўсвядоміць сутнасныя рэчы і з'явы для сучаснай Беларусі, за асобнымі гісторыямі разгледзець істотнае для супольнасці. Сапраўды, наш час візуальнай культуры праз экранныя вобразы можа закранаць балючыя тэмы, ставіць сур'ёзныя пытанні. Таму кіно павінна быць тут і цяпер, сваё і пра нас. Хто і як яго павінен рабіць — іншае пытанне. Так, ёсць студыя… Але калі ў Беларусі ініцыятыву перахопліваюць аматары, гатовыя шукаць грошы ці ахвяраваць свае, то таму, што ёсць пра што выказацца. Асабліва таму, што пераважна гэта маладыя людзі, трэба знаходзіць шляхі, як дапамагчы ім адукацыйнымі праектамі. Найперш гэта зразумелі тыя, хто мае ўласны досвед працы як на студыях, так і самастойна. Кіно за невялікія грошы ці наогул без іх? Ёсць у нас нават такія амбітныя аматары. Адным у суарганізатараў «КінаЛетніку-Хранатопь» стала мінская кінашкола-студыя Андрэя Палупанава. Але паслухаць можна было і пра замежны досвед у арганізацыі кінаадукацыі і стварэнні праектаў ка-прадукцыі. Вядома, і паглядзець кіно, паразважаць: што робіць фільм добрым?

Дзе кіно — там жыццё, нібыта імкнуліся падцвердзіць арганізатары і падмацавалі адукацыйны праект яшчэ і арт-фэстам «Хранатопь. Абнуленне». Цяпер толькі па нарастаючай павінна развівацца вёска Каптаруны: можа быць, апантаныя «кіношнікі» здолеюць прыцягнуць сюды культурных турыстаў (беларускіх і замежных), таму што збіраюцца працягваць падобныя сустрэчы. Хто ведае, можа, потым усе разам здымуць фільм пра культурнае адраджэнне асобна ўзятай беларускай вёскі. Нават гэта можна было б лічыць цудоўным вынікам праекта. А калі нехта яшчэ пачне здымаць нешта сваё…

**Марыя АСІПЕНКА**

# Працавітасць як талент

**Характар і лёс двух незвычайных струнных інструментаў, родам з Італіі і Расіі, якія выдатна прыжыліся ў Беларусі, раскрыў вядучы выканаўца Беларусі на домры і мандаліне, лаўрэат прэстыжных міжнародных конкурсаў, уладальнік медаля Францыска Скарыны Мікалай Марэцкі. Музыкант паведаміў карэспандэнту «ЛіМа» і пра знаёмствы з легендарнымі людзьмі, якія перавярнулі яго жыццё, пра невычэрпную працавітасць і сяброўства з самім Мсціславам Растраповічам.**

Як абудзіць цікавасць да гісторыі, народнага, вытокаў? У тым ліку праз музыку. Мікалай Марэцкі разам з прафесарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Галінай Асмалоўскай ды іншымі сваімі калегамі некалькі гадоў даследавалі еўрапейскі радавод нацыянальнай культуры праз два інструменты — домру і мандаліну. Мала хто ведае, але ў нас яшчэ з 1992 года дзейнічае Асацыяцыя беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў. Інструменты роднасныя, але кожны са сваёй біяграфіяй.

## МУЗЫКА З ГІСТОРЫІ

Домра і мандаліна, нягледзячы на тое, што належаць да аднаго класа струнных шчыпковых музычных інструментаў, зусім розныя. Домра звязаная з Расіяй, бліжэйшая да балалайкі, толькі больш жорсткая і менш аб'ёмная ў мелодыцы. Гук здабываецца медыятарам на тых жа струнах, але ён больш дакладны і звонкі. Мандаліна ж самая пяшчотная з «сямейства». Цікавяць асаблівасці яе канструкцыі. Кожная струна парная, грыф шырокі, корпус у форме падаючай кроплі. У Беларусь абодва інструменты прыйшлі амаль у адзін і той жа час, але лёс іх развіваўся па-рознаму.

Мікалай Марэцкі прывёў гісторыю домры яшчэ з часоў XVII стагоддзя, калі ў Маскве валадарыў Аляксей Міхайлавіч, бацька Пятра I. Царква настроілася супраць дамрачоў, таму што яны суправаджалі ігру на інструментах жартамі. Цар загадаў спаліць усе домры на Русі... У Вялікім Княстве Літоўскім у той час, наадварот, квітнелі струнныя інструменты. Але домра, так ці інакш, трапіла ў забыццё на цэлыя тры стагоддзі. «У 1898 годзе ў Санкт-Пецярбургу жыў Васіль Андрэеў, дваранін і арыстакрат, які цудоўным чынам знайшоў ўзоры домры. На вучоным савеце вырашылі, што расійскія вучоныя сканструююць гэты інструмент, каб пусціць у вытворчасць. Так домра і трапіла ў Беларусь, з Санкт-Пецярбурга, і неяк вельмі гарманічна супала і з народнымі настроямі, і з палітыкай дзяржавы. Ужо ў другой палове XX стагоддзя сталі актыўна ўключаць домру ў праграмы музычных навучальных устаноў, — тлумачыць Мікалай Марэцкі. — А вось мандаліна, з'явіўшыся ў 1876 годзе з лёгкай рукі італьянскіх рабочых, якія прыбылі на пошукі справы ў Гродна, у часы савецкай улады была забаронена як непажаданы элемент буржуазіі. А яе карані, між іншым, наогул сыходзяць на Усход, у стагоддзе, напэўна, XIII».

Цікава, што ў Мінску ў 1950-я гады сярод зняволеных адной з турмаў існаваў мандалінны аркестр. Дапамагала мандаліна людзям спраўляцца з цяжкасцямі, бо ў яе не меншы, чым у домры, народны патэнцыял. «Мандаліна канчаткова ўкаранілася на тэрыторыі Беларусі ў 1980-я гады. Нашы кампазітары ганарыліся тым, што валодалі ёй. У іх ліку Яўген Глебаў, Віктар Войцік. Мандаліна стала народнай, таму што актыўна бытуе ў творчасці», — упэўнены музыкант. Яшчэ раней з'явіліся ансамблі, аркестры. Прычым розныя — неапалітанскія, германскія, партугальскія.

## ЕЎРАПЕЙСКІ ФАРМАТ

Мікалай Марэцкі і сам вялікую ўвагу надае калектыўнай творчасці. Стваральнік неапалітанскага аркестра «Экспрэсія» (мандаліны, гітары, кантрабас), ансамбля «Капрычыа» і квартэта «Тонарт». «Гэта еўрапейскі, вельмі гнуткі і прадуктыўны стыль творчасці — калі выканаўцы музіцыруюць адначасова ў розных складах. Мае калектывы лёгкія на пад'ём. Як толькі перад намі ўзнікаюць новыя творчыя задачы — абмяркоўваем, сядаем рэпеціраваць, выступаем», — прызнаецца музыкант.

«Так, з аркестрам "Экспрэсія" ўжо другі год запісваем дыскі для нямецкіх кампазітараў. Праца складаная, але прэстыжная. Шматлікія рэпетыцыі пры адсутнасці свайго памяшкання, нялёгкая праграма... Але мы



*Мікалай Марэцкі.*

шчаслівыя. Гтай восенню, 5 лістапада, беларускіх слухачоў чакае сюрпрыз — мы адыграем ў Малой зале імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі аўтарскі канцэрт твораў спадарыні Эльке Тобер-Фогт з Германіі на мандаліне і гітарах. Музыка прагучыць спрадвечная, народная, але для нас, беларусаў, экзатычная — яўрэйская, французская, кельцкая і нават афрыканская», — кажа Мікалай Марэцкі.

У яго інструментальным ансамблі «Капрычыа» працуе адданая і таленавітая вучаніца Наталля Корсак, бліскучая дамбрыстка і мандаліністка, а таксама піяністка Ганна Кудрына. У «Тонарце» ўжо чатыры чалавекі. Дзякуючы Сабіне Марзэ, мандаліністцы з Францыі, калектыў набыў міжнародны акцэнт. На фартэпіяна тром музыкам (тут таксама граюць Марэцкі і Корсак) акампануе Марына Рамейка. Сюіты з балетаў, уверцюры да народных опер, «танцы з шаблямі» — ім усё па плячах.

## ТВОРЧЫ АКЦЭНТ

Канцэртаў у Мікалая Марэцкага ніколі не бывае мала. Ён тройчы быў у Японіі (які яшчэ беларускі музыкант можа такім пахваліцца?), штогод саліруе ў Белдзяржфілармоніі, выступаў у Германіі і Грэцыі, Егіпце, Польшчы і Расіі. Еўрапейскія фестывалі і сусветныя мандалінныя сімпозіумы таксама не застаюцца ўбаку. Як і ўдзел у журы на сусветных творчых спаборніцтвах — такіх, як конкурс Еўрапейскай гітарна-мандалiннай асацыяцыі ў Патрах (Грэцыя) і Асацы (Японія). Працавітасць у яго ў крыві. «Гэта ген, напэўна, такі», — смяецца музыкант. Свой рэпертуар ён імкнецца разнастаіць па максімуме, выбіраючы творы (і перакладанні) з самых розных эпох і стыляў. У выніку атрымліваецца: з аднаго боку Сен-Санс з Мендэльсонам, з другога — Бах і Дэбюсі, з трэцяга — родныя Алоўнікаў, Глебаў і Шастаковіч.

Нядаўна, падчас «Мінскай вясны» ў Белдзяржфілармоніі, Мікалай Марэцкі як арганізатар ды ідэйны натхняльнік Міжнародных дзён мандалінна-гітарнай музыкі «Мандалінісіма» запрасіў у Мінск легендарнага чылійца Рыкарда Сандавала, віртуоза ігры на мандаліне і зусім новым венесуэльскім інструменце бандаласе, створаным яго бацькам. Дык вось, спакойныя, напоўненыя гармоніяй залы філармоніі, па словах Мікалая Марэцкага, проста ўзарваліся ад напору харызмы як інструментаў, так і выканаўцаў, агульнай гукавой феерыі! Кухта і Скрыган, Грыдзюшка і Корсак, Пракопчык і Бельскі, Мінскі мандалінна-гітарны аркестр Яраслава Валасюка — сваю творчасць на гэтай пляцоўцы прадстаўляюць самыя яркія выканаўцы з Беларусі. Прыязджаюць музыканты з Германіі, Манака, Расіі. Падзея яркая і знакавая, яе не варта прапускаць.

## ГАЛОЎНАЕ — ЭМОЦЫІ

Сваю творчую біяграфію Мікалай Марэцкі лічыць статыстыкай, хай і насычанай. Галоўнае, на яго думку, у музыцы — эмоцыі, тое, што адчувае чалавек, яго душа і пачуцці. Адна з кульмінацый эмацыянальнага ўздыму прыйшлася на стасункі з вялікім рускім дырыжорам, савецкім віяланчэлістам, піяністам Мсціславам Растраповічам, якое ён лічыць няйначай як Божым провідам.

«Наша знаёмства супала з 70-годдзем маэстра ў 1998 годзе і прэм'ерай балета "Рамэа і Джульета" на музыку Сяргея Пракоф'ева спачатку ў Маскве, потым у гарадах Літвы. Літоўскі і Лонданскі сімфанічныя аркестры, еўрапейскія зоркі ў галоўных ролях, смелыя эксперыменты са сцэнаграфіяй... І ўсім гэтым загадваў адзін чалавек!» — узгадвае Мікалай Марэцкі.

Сцэна была падзелена на тры ярусы, аркестр выведзены з ямы і пасаджаны на другім «паверсе». Дзеянне адбывалася вакол, артысты перамяшчаліся па лесвіцах паміж усімі ўзроўнямі. Чатыры мандаліны — на самым верхнім. У доўгіх балахонах-адзеннях, калі бачныя толькі рукі і галава. Усё гэта стварала проста вар'яцкую дынаміку. Прэм'ера ператварылася ў нацыянальнае свята.

Мікалай Марэцкі, Вольга Калядка, Яраслаў Валасюк і Ала Сакалоўская — такі быў калектыў мандаліністаў. І Мсціслаў Растраповіч любіў размаўляць менавіта з імі. А ўсё чаму? Музыкі яшчэ ў першую сустрэчу задалі яму вельмі канкрэтныя, прафесійныя пытанні, і ён гэта ацаніў.

Распавядаючы пра дырыжора, Мікалай Марэцкі прызнаецца, што адна з самых фенаменальных якасцей Растраповіча, якой ён сам ганарыўся, — неверагодная памяць. «Ён ніколі не задумваўся, каб назваць даты, прозвішчы, успомніць партытуры. Рускі па прыродзе, каранях, тэмпераменце, але з еўрапейскім выхаваннем. Па прамове было чуваць, што можа і вылаяцца, але ніколі гэтага не рабіў. Ён ні секунды не мог стаяць на месцы, пастаянна з некім размаўляў», — апісвае дырыжора Мікалай Марэцкі.

## ЗАКАЛЬЦАВАНАСЦЬ ДОСВЕДУ

Беларускі дамрыст і мандалініст сам прызнаны педагог, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Ён з захапленнем і трапятаннем успамінае і пра сваіх настаўнікаў, поўны падзякі за тое, да чаго прыйшоў цяпер. Яны навучылі яго любіць музыку і працаваць. Пазней Мікалай Марэцкі зламіў сябе на думцы, што, нягледзячы на досвед, любіць ставіць рэкорды. Адно лета ён прасядзеў дома, у Магілёве, і з раніцы да вечара зубрыў новыя творы.

«Калі маленькі чалавек правучыўся ў музычнай школе, скажам, гадоў пяць, а потым яшчэ і ўзяў удзел у конкурсе, прычым не важна, перамог альбо проста атрымаў шакаладку, музыка яго ўжо не пакіне — стань ён хоць эканамістам альбо юрыстам», — сцвярджае музыкант. Паводле яго слоў, музыка — неверагодна заразная рэч. Вядома, у добрым сэнсе слова.

А да домры ён прыйшоў дзякуючы бацьку. У сям'і магілёўца было восем хлапчукоў, прычым даволі хуліганістых. Пакуль не з'явіўся Цімафей Міроныч, дырыжор мясцовага аркестра ў Доме піянераў. У выніку адзін пайшоў граць на кларнеце і скончыў Маскоўскую кансерваторыю, стаўшы ваенным дырыжорам, другі — на габоі, Мікалай — на домры... Сваю першую настаўніцу, Ларысу Беленькую, ён успамінае з асаблівай цеплынёй. Памятае і Анатоля Драбышэўскага, і Галіну Асмалоўскую і, вядома ж, Георгія Жыхарава, да якога трапіў ужо ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У 1970-я гады гэта быў кумір музыкантаў. Дырыжор, культавая фігура ў домрава-балалаечным народным мастацтве. Як Іосіф Жыновіч у цымбальным. У яго не было рэгалій і пагонаў, ён быў проста таленавіты, патрабавальны.

Ведае Мікалай Марэцкі і Аляксандра Цыганкова, унікальнага кампазітара і выканаўцу, народнага артыста Расіі, прафесара, разам з якім ён і спрыяў распаўсюджванню папулярнасці домры ў нашай краіне, правёў нават Дэкаду народна-інструментальнага мастацтва ў гарадах Беларусі.

Не думайце, што граць на домры проста. Яна вельмі спецыфічная, патрабуе вялікай увагі і зацятасці. Мікалай Марэцкі, вельмі патрабавальны да сябе, прызнаўся, што толькі гадоў пад сорак усвядоміў, што авалодаў гэтым інструментам дасканала. Менавіта тады ён узяў першую прэмію на прэстыжным Міжнародным конкурсе выканаўцаў на народных інструментах «Кубак Поўначы» ў расійскім Чарапаўцы, які аб'яднаў народнікаў, прычым вельмі моцных, з самых розных краін.

Ужо цяпер, стаўшы прафесіяналам, упэўнены, што нельга пераставаць вучыцца. Нават ужо вядомыя творы ён увесь час паўтарае. А яшчэ Мікалай Марэцкі хваліць савецкую школу музыкі, называе яе самай фундаментальнай у свеце. І сапраўды: дзе яшчэ з такой адданасцю і столькі гадоў назапашваюць сваё майстэрства?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Адчуванне горада

## айчыннымі архітэктарамі і мастакамі ў пасляваенны перыяд

Фотаздымкі альбо гістарычныя малюнкі — своеасаблівыя знакавыя помнікі. Яны не дазваляюць забыцца пра пэўныя падзеі, пра перыяды ў гісторыі, пра людзей, якія падаравалі нам жыццё ва ўмовах сучаснасці. На працягу лета Гарадская мастацкая галерэя Леаніда Шчамялёва запрашае наведаць выстаўку «Горад, якога мы не бачылі», што складаецца з дакументальных матэрыялаў і малюнкаў Мінска 1940 — 1950-х гадоў. Экспазіцыя была падрыхтавана спецыяльна да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і працягнецца да сярэдзіны верасня.



*Сяргей Святліцкі. «Плошча Свабоды», 1945 г.*

Больш як пяцьдзясят работ выдатных айчынных аўтараў прызначаны сфарміраваць вобраз пасляваеннага Мінска. Сярод творцаў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Іосіф Лангбард, народны архітэктар СССР Георгій Заборскі, народны архітэктар СССР Уладзімір Кароль, мастак-архітэктар Сяргей Святліцкі і народны мастак Беларусі Уладзімір Стальмашонак. Аўтары дэманструюць розныя погляды на інфраструктуру і ўтульнасць сталічнай прасторы. Але ж творцаў аб'ядноўвае важны факт: усе яны жылі ў пасляваенным Мінску, бачылі яго ў руінах, працавалі над яго адраджэннем.

Погляды архітэктараў і мастакоў на пасляваенны Мінск асаблівыя. Гэта горад, які не паспеў патрапіць у аб'ектывы фотакамер, не паспеў захавацца на ўзроўні агульнаўспрымальнага ўражання. Народны архітэктар СССР Уладзімір Кароль у сваіх алоўкавых малюнках, якія з'яўляюцца значнай часткай экспазіцыі, дэталёва зафіксаваў руіны Дамініканскага сабора, так званы «дом масонаў» па Музычным завулку, старую забудову вуліц Верхняга горада. У 1946 годзе Уладзімір Кароль у суаўтарстве з архітэктарамі Сяргеем Сперанскім і Навумам Трахтэнбергам распрацавалі праект цэнтральнай часткі сталіцы, які быў задуманы як комплекс архітэктурных ансамбляў.



*Сяргей Святліцкі, «Плошча Свабоды з боку старога Мінска», 1944 г.*

Малюнкі Іосіфа Лангбарда, прадстаўленыя ў экспазіцыі, дастаткова вядомыя. Многія з іх паўплывалі на фарміраванне архітэктурнага аблічча Мінска. Напрыклад, невялікі малюнак плошчы Свабоды, зроблены аўтарам у 1944 годзе, сёння — своеасаблівая класіка, па шматлікіх дэталях увасобленая ў рэальнасць. Само прозвішча Лангбард — знак якасці, прафесіяналізму ў беларускім дойлідстве.

Ёсць у экспазіцыі і сапраўдныя малюнкі-памяць. Экспрэсіўная работа архітэктара Георгія Заборскага зроблена з Троіцкай гары — успамін пра пачатак вайны, пра 24 чэрвеня, калі Мінск пачала люта бамбіць фашысцкая авіяцыя. А серыя графічных малюнкаў Уладзіміра Стальмашонка ілюструе будаўніцтва праспекта Незалежнасці з яго ансамблем плошчаў, уладкаванне берагоў Свіслачы і будаўніцтва новых праектаў.

Усе работы мастакоў прадстаўлены ў чорна-белым колеры. Іх трэба ўважліва разглядаць, каб заўважыць падабенства альбо адрозненне з сучаснай архітэктурай. Ёсць у экспазіцыі і каляровыя творы, якія разглядаеш нават не проста з цікавасцю, а з трапятаннем, бо ёсць адчуванне, што гартаеш фотаальбом са здымкамі, якіх больш нідзе не ўбачыш. Аўтар гэтых работ — мастак-архітэктар Сяргей Святліцкі. Яго ўнікальная серыя акварэльных малюнкаў экспануецца ўпершыню. Спецыяльна да юбілейнага Дня Незалежнасці Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі прадаставіў іх для экспанавання. Разбураную ваеннымі дзеяннямі сталіцу Савецкай Беларусі мастак адлюстроўвае ў тонкай паэтычнай манеры. Ён апявае горад славай, паказвае яго гераізм і моц. Дэталізацыя вузкіх вулачак і архітэктурных пабудоў абуджае захапленне, цікавасць да мастацкага твора, які, быццам бы дакументальная кінастужка, насычаная жывым колерам, распавядае пра тайны любімага горада, запрашае яшчэ больш паглыбіцца ў сюжэтны настрой.

На адкрыцці выстаўкі можна было назіраць, як наведвальнікі ў працэсе прагляду мастацкіх работ не проста рабілі сэлфі, а шукалі ў інтэрнэце сучасны выгляд пэўнай вуліцы, плошчы альбо будынка і параўноўвалі з аўтарскім ілюстраваннем. Гледачы праводзілі аналіз: у якога аўтара найбольш рэалістычнае адлюстраванне горада, а ў якога — мастацкае. У выніку можна адзначыць, што выстаўка атрымалася не толькі інфарматыўнай, але і інтэрактыўнай.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



На фота прадстаўлены Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў вёсцы Відзы, якая знаходзіцца ў Браслаўскім раёне. Ён з'яўляецца ці не галоўнай славутасцю вёскі. Штогод сюды прыязджаюць шмат турыстаў, каб убачыць неагатычны касцёл ужывую.

Будаўніцтва касцёла пачалося яшчэ ў 1909 годзе. У гады вайны будынак храма моцна пацярпеў, бо ў 1915 годзе праз Відзы пралягала лінія фронту. Вежы касцёла выкарыстоўваліся ў якасці назіральнага пункта, для ўстаноўкі кулямётаў і размяшчэння снайпераў. У гады Вялікай Айчыннай вайны касцёл таксама быў у цэнтры ваенных падзей.

Сёння Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі дзякуючы намаганням вернікаў адрамантаваны. Ён захапляе прыгажосцю, незвычайнымі вітражамі, ажурнымі пераплётамі вокнаў і востраканцовымі вежамі. Ён нікога не пакіне абыякавым, а яго ўнутранае ўбранне — добры прыклад вытанчанасці і лаканічнасці: для ўсяго знаходзіцца сваё, нібы роднае месца. Дарэчы, пасля касцёла ў Гервятах гэты лічыцца самым высокім у Беларусі (вышыня яго шпіляў 59 метраў). Вельмі б хацелася, каб не толькі індывідуальныя турысты праяўлялі цікавасць да касцёла, але ён быў уключаны ў маршруты тураў выходнага дня. Мяркую, шмат каму было б цікава пабываць тут.

**Алена ЛЮДЧЫК**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 7.07.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1649.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2584

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2016
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2016
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2016

ISSN 0024-4686